МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

№7 (44) ЛІПЕНЬ 2005

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК



## IV З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ
### "МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**"МЫ ЎСЕ РАЗАМ – ХТО НАРАДЗІЎСЯ І ЖЫВЕ Ў БЕЛАРУСІ, ХТО ПА ВОЛІ ЛЁСУ АПЫНУЎСЯ ПА-ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ – ЁСЦЬ НАРОД БЕЛАРУСІ. МЫ ЎСЕ – АДЗІН ДЛЯ АДНАГО, МЫ ЎСЕ РАЗАМ – ДЛЯ БЕЛАРУСІ, ВОЛЬНАЙ І НЕЗАЛЕЖНАЙ, ДЭМАКРАТЫЧНАЙ І ЗАМОЖНАЙ".**

Са Звароту да суайчыннікаў
Чацвёртага з'езда беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

**"МЫ, УДЗЕЛЬНІКІ ЧАЦВЁРТАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ СВЕДЧЫМ БОГАМ І ГІСТОРЫЯЙ ДАДЗЕНАЕ НАШАМУ НАРОДУ ПРАВА МЕЦЬ СВАЮ НЕЗАЛЕЖНУЮ ДЗЯРЖАВУ З ЯЕ АДВЕЧНЫМІ СІМВАЛАМІ — БЕЛА-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ СЦЯГАМ І ГЕРБАМ ПАГОНЯ".**

З Дэкларацыі
Чацвёртага з'езда беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

## IV З'езд беларусаў свету. Выніковы рэпартаж.

**Напярэдадні**

Беларусы з розных краін пачалі прыязджаць у Мінск і заходзіць на сядзібу Згуртавання ўжо за тыдзень да З'езда. У напружанай падрыхтоўчай атмасферы суайчыннікі з усіх куткоў свету жыва цікавіліся сітуацыяй у Беларусі і падрыхтоўчай працай да З'езда. Многія шчыра прапаноўвалі дапамогу.

Першае мерапрыемства ў межах З'езда адбылося ўжо 13 ліпеня. Ім стала прэс-канферэнцыя прадстаўнікоў беларускай дыяспары ЗША. Галоўнымі дзеючымі асобамі былі доктар гістарычных навук, пісьменнік і грамадскі дзеяч Янка Запруднік, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва Вітаўт Кіпель, намеснік старшыні Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі Алена Касоўская і парафіянін Царквы імя Еўфрасінні Полацкай Джордж Лапіцкі. Госці выступілі перад беларускімі і замежнымі журналістамі, адказалі на іх пытанні.

Апошнім падрыхтоўчым мерапрыемствам перад З'ездам было пасяджэнне Вялікай Рады "МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" 15 ліпеня. Кіраўнік Згуртавання Анатоль Грыцкевіч і старшыня Рады Алена Макоўская паведамілі пра асноўныя складанасці ў падрыхтоўцы да З'езда, апошнія арганізацыйныя захады і план працы структур Згуртавання на З'ездзе.

**Прадстаўнічасць З'езда**

16 ліпеня ўжо з 8 гадзінаў раніцы перад Міжнародным адукацыйным цэнтрам IBB па праспекту "Праўды" пачалі збірацца людзі, хаця рэгістрацыя афіцыйна была абвешчана з 9 гадзін. У фае будынку рыхтаваліся да мерапрыемства сакратарыят, інфармацыйны цэнтр і ахова З'езда. На будынку Цэнтра вісеў вялізны транспарант "IV З'езд беларусаў свету". А 9-й гадзіне аўтобусы пачалі прывозіць дэлегатаў і гасцей форума з гатэля "Беларусь". Пачалася рэгістрацыя ўдзельнікаў.

Паводле інфармацыі старшыні мандатнай камісіі З'езда Ніны Шыдлоўскай, з Беларусі і замежжа ў працы З'езда бралі ўдзел 278 дэлегатаў: 144 дэлегаты з Беларусі, 134 дэлегаты з краін замежжа. У працы З'езда ўдзельнічалі прадстаўнікі 69-ці арганізацый беларускай дыяспары



з 21 краіны: Англіі, Германіі, ЗША, Польшчы, Ватыкана, Аўстрыі, Іспаніі, Коста-Рыкі, Францыі, Чэхіі, Швейцарыі, Канады, Латвіі, Літвы, Эстоніі, Расіі, Украіны, Арменіі, Кыргызстана, Беларусі, Канады. На З'ездзе былі зарэгістраваны 110 гасцей з Францыі, ЗША, Польшчы, Расіі, Беларусі, Чэхіі, Швецыі..

Былі запрошаныя прадстаўнікі Адміністрацыі прэзідэнта, Міністэрства юстыцыі, Міністэрства адукацыі, Міністэрства інфармацыі, Міністэрства эканомікі, Міністэрства замежных спраў, Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў і інш. Аднак ад дзяржаўных структур на З'ездзе прысутнічалі толькі прадстаўнікі Міністэрства юстыцыі і Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў.

Ад дыпламатычнага корпусу прысутнічалі Пасол ЗША Джордж Крол, Першы сакратар пасольства Польшчы Марыюш Семаковіч, прадстаўнік пасольства Францыі Лаура Трэгерэ.





Да З'езда праявілі вялікую цікавасць прадстаўнікі беларускіх і замежных сродкаў інфармацыі. На З'ездзе былі акрэдытаваны і яго асвятлялі 16 перыядычных выданняў, сярод якіх і дзяржаўныя, і незалежныя газеты і часопісы. Працавалі 7 інфармацыйных агенцтваў, сярод якіх БелаПАН, ІНТЭРФАКС, BBC, REUTERS, ASSOCIATED-PRESS і інш. Актыўна асвятлялі дзейнасць З'езда Радыё "Свабода", I канал Беларускага радыё, а таксама "Polskie radio" і "Radio Gdansk". Бралі інтэрв'ю і здымалі працу З'езда 6 каналаў тэлебачання: НТВ, RenTV, СТВ, ТВЦ, ЛАД, АНТ.

### Першы дзень З'езда

Адкрыццё З'езда адбылося а 10 гадзіне 16 ліпеня ўрачыстым выкананнем гімна "МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Адбыліся выбары рабочых органаў і зацвярджэнне рэгламенту З'езда. У запісу прагучалі вітальныя словы Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы (Канада). На З'езд таксама былі дасланы вітанні ад Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага і Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта (Беларусь), Праграмнай Рады Тыднёвіка "Ніва" (Польшча), акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі Барыса Кіта (Германія), Рады Таварыства сувязяў з украінцамі замежжа (Украіна), выдаўца часопіса "Belarusian Review" Вячкі Станкевіча (ЗША), Рады суполкі "Скарына" ў Празе (Чэхія), Саюза беларускіх пісьменнікаў (Беларусь), кіраўніцтва Чыкагскага беларускага зямляцтва (ЗША), першага старшыні Згуртавання беларусаў Канады Кастуся Акулы, Галоўнай Управы Згуртавання беларусаў Канады, Федэральнай Рады Беларускіх арганізацый у Аўстраліі, Беларускага Цэнтральнага Камітэта ў Вікторыі (Аўстралія), Беларуска-Іберыйскага Згуртавання ў Мадрыдзе (Іспанія), Згуртавання беларусаў Бельгіі.




Перад удзельнікамі З'езда з вітальнымі словамі на беларускай мове выступіў пасол ЗША ў Беларусі Джордж Крол.

З дакладамі выступілі кіраўнік МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" прафесар Анатоль Грыцкевіч, доктар гістарычных навук Янка Запруднік (ЗША), гісторык Алег Гардзіенка, кандыдат гістарычных навук Аляксей Кароль, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва Вітаўт Кіпель (ЗША), кандыдат эканамічных навук Леанід Злотнікаў.

Адбыліся выступленні дэлегатаў і гасцей З'езда, прэзентацыя кніг, справаздачны даклад старшыні Рады МГА

"ЗБС "Бацькаўшчына" Алены Макоўскай, справаздачны даклад Кантрольна-рэвізійнай камісіі.

Увечары для удзельнікаў З'езда быў арганізаваны святочны канцэрт, на якім разам з беларускім музыкамі вялікую частку праграмы выканалі самадзейныя і прафесійныя артысты з суполак беларускай дыяспары.

### Другі дзень З'езда

У другі дзень 17 ліпеня праца З'езда праходзіла па секцыях "Беларусь для дыяспары – дыяспара для Беларусі. Шляхі да кансалідацыі і развіцця нацыі", "Культура і адукацыя беларускага замежжа", "Перспектывы эканамічнага супрацоўніцтва: Беларусь – дыяспара."

Па абедзе адбылося падвядзенне вынікаў працы секцый, прынятце выніковых дакументаў, выбары кіруючых органаў, пасяджэнне новаабранай Вялікай Рады, прысваенне звання "ганаровы сябра МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", прэс-канферэнцыя арганізатараў і дэлегатаў З'езда, сяброўская вячэра.

Кіраўніком МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" абраны вядомы мастак Аляксей Марачкін, старшынёй Рады пераабрана Алена Макоўская, намеснікамі старшыні Рады – Ніна Шыдлоўская, Валеры Герасімаў, Барыс Стук. У Вялікую Раду абраны 104 чалавекі: 52 з Беларусі і 52 кіраўнікі беларускіх арганізацый замежжа. Ганаровымі сябрамі МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" сталі Радзім Гарэцкі, Анатоль Грыцкевіч, Івонка Сурвілла, Барыс Кіт, Ніл Гілевіч.



### Выніковыя дакументы IV З'езда беларусаў свету

На З'ездзе былі прыняты наступныя выніковыя дакументы:

1. Праграма "Беларусы замежжа" (2005–2009 гг.).
2. Зварот да суайчыннікаў "Беларусь – для дыяспары, дыяспара – для Беларусі".
3. Рэзалюцыя "Пра беларускую мову".
4. Дэкларацыя "Аб падтрымцы Акта незалежнасці Беларусі, прынятага Усебеларускім з'ездам 29 ліпеня 2000 г. у Мінску".
5. Рэзалюцыя "МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" – прававмоцны прадстаўнік інтарэсаў сусветнай беларускай супольнасці".
6. Зварот "Аб Радыёстанцыі Deutsche Welle".
7. Заява супраць перайменавання ў Мінску праспекта Ф.Скарыны.
8. Зварот да Урада і Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь аб прыняцці закона "Аб беларускай дыяспары".



Праграма "Беларусы замежжа" распрацавана на падставе прапаноў, якія паступілі ў адрас МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" ад сяброў аб'яднання – прадстаўнікоў беларускай дыяспары. Праграма непасрэдна датычыцца як дзейнасці самога МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", так і ўключае шэраг парад і прапаноў да органаў улады ў галіне развіцця ўзаемаадносін і дапамогі беларускай дыяспары.

Рэзалюцыя "Пра беларускую мову" выказвае пратэст працэсам русіфікацыі і заклікае да абароны роднай мовы.

Рэзалюцыя "МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" – правамоцны прадстаўнік інтарэсаў сусветнай беларускай супольнасці" з'яўляецца сведчаннем высокага даверу, які дэлегаты З'езда выказалі Згуртаванню.

Дэкларацыя "Аб падтрымцы Акта незалежнасці Беларусі..." сцвярджае пераемнасць ідэй незалежнасці і дэмакратыі, абвешчаныя ў свой час Усебеларускім з'ездам (2000 г.).

У Звароце "Беларусь – для дыяспары, дыяспара – для Беларусі" праводзіцца актуальнае для сучаснасці асэнсаванне катэгорыі "беларуская нацыя". У Звароце таксама змешчаны заклік гуртавацца, усталёўваць сувязі, пашыраць кантакты і абмен інфармацыяй, інфармаваць сваіх замежных сяброў і знаёмых аб сітуацыі ў Беларусі.

У Звароце да Урада і Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь аб прыняцці закона "Аб беларускай дыяспары" падкрэсліваецца неабходнасць прыняцця закона, абмеркаванне якога ідзе ўжо больш за 3 гады.

Зварот "Аб Радыёстанцыі Deutsche Welle" ўздымае пытанне аб неабходнасці вяшчання на Беларусь гэтай нямецкай радыёстанцыі на беларускай мове. Прынята таксама Заява супраць перайменавання ў Мінску праспекта Ф.Скарыны.

Падрабязна з выніковымі дакументамі IV З'езд беларусаў свету, Праграмай З'езда, фотагалерэямі, прысвечанымі розным бакам дзейнасці З'езда, можна пазнаёміцца на сайце МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

**zbsb.org**

### Пасля З'езда

18 ліпеня ў сядзібе "Бацькаўшчыны" адбылася сустрэча дэлегатаў З'езда з новым кіраўніцтвам Згуртавання, дзе абмяркоўваліся самыя розныя пытанні будучай дзейнасці Згуртавання.

З ініцыятывы супрацоўнікаў вядомага беларускага партала TUT.BY адбылася онлайн-канферэнцыя з прадстаўнікамі беларускай дыяспары і Згуртавання "Бацькаўшчына", у якой удзельнічалі Зінаіда Клыга (Эстонія), Язэп Паўловіч (Германія), Максім Вінакураў (Аўстрыя), Алена Макоўская (Беларусь) і Алег Гардзіенка (Беларусь).

22 ліпеня адбыўся прыём у рэзідэнцыі Пасла ЗША ў Беларусі Дж.Крола ў гонар беларусаў Амерыкі.

Увесь наступны тыдзень на офісе "Бацькаўшчыны" адбывалі сустрэчы, абмяркоўваліся сумесныя праекты і планы, адбываўся абмен каардынатамі, інфармацыяй, кнігамі, брашурамі, дыскамі і іншымі прэзентатыўнымі матэрыяламі. Дэлегаты і госці З'езда развіталіся і зычылі адзін аднаму і супрацоўнікам "Бацькаўшчыны" трываласці і плёну ў далейшай працы.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*





**IV З'езд беларусаў свету атрымаў надзвычай шмат вітанняў з усіх куткоў свету і з Беларусі, і не толькі ад арганізацый беларускай дыяспары. Пералік вітанняў можна прачытаць у выніковым рэпартажы Інфармацыйнага цэнтра – першы артыкул бюлетэня. Усе вітанні прасякнуты павагай да дэлегатаў і працы З'езда, ва ўсіх выказваецца шчырая падтрымка гэтай падзеі, упэўненасць у станоўчых і плённых выніках, а таксама вера ў поспех беларускага руху і адраджэнне роднай культуры пры ўдзеле ўсёй сусветнай беларускай супольнасці. У скарочаным выглядзе падаем некаторыя з вітанняў да З'езда.**

**Вітальнае слова Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы (Атава, Канада):**

"Паважаныя арганізатары і дэлегаты 4-га З'езда Беларусаў Свету, дарагія Суродзічы! Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі – яшчэ ўсё на чужыне – вітаю Вас з гэтым, Чацвёртым З'ездам Беларусаў Свету, віншую арганізатараў і жадаю ўсім сапраўды плённай працы.

Жывем мы ў розных краінах свету. Кожны з нас хоча ганарыцца сваёй Бацькаўшчынай, бо адчуваем сябе неад'емнай часткай беларускага народа...

Будуць яшчэ перашкоды на нашым шляху, дарагія Суродзічы. Не ўсім выгадна, каб беларуская нацыя кансалідавалася і развівалася. Але наш народ здольны. Гэта ён не раз меў нагоду даказаць у сваёй гісторыі. Дык не трацьма надзеі.

Жадаю Вам поспехаў у Вашай працы".

**Барыс Кіт, акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Франкфурт-на-Майне, Германія):**

"Шаноўнае спадарства! Віншую ўсіх са святам – З'ездам беларусаў свету – святам яднання і згоды лепшых, шчырых сыноў і дачок нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны-Беларусі. Зычу плённай працы нашаму з'езду і спадзяюся, што ён адбудзецца без усякіх перашкодаў, пройдзе канструктыўна і вынікова.

Ганаруся вашай самаадданай працай на ніве адраджэння Беларусі, нястомным змаганнем за волю і незалежнасць краіны. Веру, што стане вольнай, незалежнай і дэмакратычнай наша Бацькаўшчына – таму за паруку ваша пачэсная праца!

Са шчырымі прывітаннямі і найлепшымі пажаданнямі ўсім удзельнікам З'езда!"

**Прывітальная прамова Джорджа Крола, Пасла ЗША ў Рэспубліцы Беларусь (Мінск, Беларусь):**

"Беларусь — старажытная нацыя са складанай гісторыяй і адной з найстарэйшых і найпрыгажэйшых моў у Еўропе. Хачу зазначыць, што многія сыны і дочкі зрабілі вялікі ўнёсак у развіццё маёй краіны. Тадэвуш Касцюшка змагаўся за незалежнасць Амерыкі. Барыс Кіт дапамог амерыканцам дабрацца да Месяца. Дзякуючы такім людзям, як Зора Кіпель, Нью-Ёрская публічная бібліятэка стала адной з найвыдатнейшых у свеце. Амерыка вінна Беларусі. Амерыка можа вучыцца на прыкладах барацьбы і мужнасці беларускага народа.

Сябры, для мяне гэта вялікі гонар быць сярод вас, прадстаўнікоў мілай мне краіны. Вы, раскіданыя па ўсім свеце, сабраліся сёння на зямлі сваіх продкаў. Я веру, што беларускі народ даб'ецца таго, што належыць кожнай свабоднай нацыі.

Дарагія сябры! Ад імя амерыканскага народа і ўраду, які я прадстаўляю, я жадаю гэтаму кангрэсу поспеху, і дзякую вам за ласку і ўвагу".

**Прывітальнае слова Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага і Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта (Мінск, Беларусь):**

"Сардэчна вітаю суайчыннікаў у роднай Беларусі!

Вы сабраліся з усіх канцоў зямлі дзеля таго, каб асэнсаваць жыццё народа беларускага на Бацькаўшчыне і ў рассеянні-дыяспары існых. Гэта надзвычай важна, бо ўсялякі народ жыве і ўмацоўваецца адзінствам духу, думкі і пачуцця.

Беларуская зямля багатая святасцю: гэта прападобная Еўфрасіння Полацкая, свяціцель Кірыл Тураўскі, праведная Сафія Слуцкая, прападобнамучанік Афанасій Брэсцкі, дабраверны князь Фёдар Астрожскі ды іншыя. Веру, што і праца IV з'езда беларусаў свету пройдзе пад іх малітоўным пакровам. Наша агульная задача сёння – збіраць, беражліва захоўваць і сведчыць пра тое лепшае, што назапасіў наш народ за сваю шматвяковую гісторыю. Думаю, што толькі ў адзінстве духу мы здолеем прынесці сваю пасільную ахвяру ў справе служэння сваёй Бацькаўшчыне і яе народу.

Божага благаславення ўдзельнікам З'езда!"

**Іван Драч, старшыня Рады Таварыства сувязяў з украінцамі замежжа "Україна – Світ" (Кіеў, Украіна):**

"Шаноўныя ўдзельнікі і госці шаноўнага форуму! Дазвольце шчыра прывітаць Вас на гэтым высокапаважным сходзе. Ужо чацвёрты раз Менск і ўся беларуская зямля гасцінна прымаюць прадстаўнічую грамаду беларусаў з усяго свету. Упэўнены, што работа Вашага форуму дасць магчымасць спрыяць далейшай кансалідацыі беларусаў ва ўсім свеце.

Няхай гэты З'езд напоўніць вашыя сэрцы радасцю, аптымізмам і вераю ў лепшую будучыню.

Ад шчырага сэрца зычым Вам плённай і канструктыўнай працы, новых важкіх дасягненняў, моцнага здароўя, сямейнага шчасця і дабрабыту".

**Аўген Груша, старшыня Федэральнай Рады Беларускіх арганізацый у Аўстраліі (Мельбурн, Аўстралія):**

"Дарагія суродзічы дэлегаты і госці!

Федэральная Рада БАА і беларусы Аўстраліі вітаюць Вас, на гэтым важным беларускім форуме. Жадаем Вам вялікіх поспехаў у працы і правядзенні 4-га з'езда ў Мінску. Беларусы Аўстраліі шлюць НАЙШЧЫРЭЙШЫЯ ПРЫВІТАННІ І ПАЖАДАННІ!!! Выносім шчырую падзяку Кіраўніцтву ЗБС "Бацькаўшчына", Кіраўніку прафесару Анатолю Грыцкевічу, Старшыні Рады Алене Макоўскай за шчырую сумленную працу на карысць нашай Маці-Беларусі. Жыве Беларусь!"

**Алег Шнэк, старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэта ў Вікторыі (Вікторыя, Аўстралія).**

"Паважаныя прысутныя Чацвёртага З'езда Беларусаў Свету. Прыйдзе час, і стане Беларусь ізноў вольнай і незалежнай дзяржавай, трэба будзе трымаць гэтую волю – моцна трымаць, як гэта спяваецца ў нашай юнацкай песні "Вон, гадаўё, з нашай зямлі!"

Жадаю вам правесці гэты з'езд карысна і плённа, і будзем спадзявацца, што на наступным з'ездзе ізноў спадкаемся ўсе разам. Жыве Беларусь!"

## З ВЫСТУПАЎ ДЭЛЕГАТАЎ



**У сваіх выступах дэлегаты З'езда абмяркоўвалі надзённыя праблемы беларускай дыяспары, прапаноўвалі свае праекты, заклікалі да супрацоўніцтва, наладжвалі кантакты. Бюлетэнь "Беларусы ў свеце" друкуе вытрымкі з некаторых выступаў.**

**Янка Запруднік, доктар гісторыі, пісьменнік (Нью-Ёрк, ЗША):**

"Выказваю задаваленьне з тэмы нашага З'езду – "Беларусь для дыяспары – дыяспара для Беларусі: шляхі да развіцця і кансалідацыі нацыі".

Якое дачыненне да кансалідацыі нацыі мае беларуская дыяспара ў Злучаных Штатах? Вельмі беспасярэдняе і вельмі даўнае. Ролю сучаснай беларускай дыяспары ў кансалідацыі і развіцці нацыі трэба разглядаць у кантэксце новага сусветнага працэсу глабалізацыі. Мы сёння – сведкі тэхналагічнай рэвалюцыі. Пашырэнне дэмакратыі, рост адкрытых дзяржаўных межаў, глабальная інтэрнэтаўская камунікацыя, паўсюднасць інфармацыйна-размнажальнай тэхналогіі драматычна павялічылі магчымасці абмену людзьмі, таварамі і ідэямі. Усё гэта дало і чалавеку дыяспары пабольшаную магчымасць, павялічыла ягоную здольнасць браць удзел у жыцці Бацькаўшчыны.

ЗБС "Бацькаўшчына" ў сваім далейшым існаванні можа выконваць выключна важную ролю. База дадзеных Згуртавання павінна была б уключаць, апрача ўсяго іншага, адрасы суродзічаў-спецыялістаў розных галін навукі і тэхнікі, што жывуць за межамі Радзімы. Гэта на выпадак, калі б патрэбныя былі адпаведныя кантакты з замежжам ці кансультацыі для пашырэння сувязяў і супрацоўніцтва, наладжання турызму, экспарту-імпарту. Гэта і будзе тым развіццём, пра якое мы тут гаворым".

**Антон Сабалеўскі, Грамада беларускае культуры імя Ф.Скарыны места Масквы (Масква, Расія):**

"Беларускае грамадства расколата, расколата і дыяспара, дзе яшчэ шмат "нацыянальных інвалідаў". Як і раней востра стаіць пытанне аб захаванні беларускай прысутнасці ў свеце. А для захавання сябе як этнасу беларусам трэба адкінуць сваю "памяркоўнасць" і змяніць яе на больш уласцівыя рысы, як упартасць і рашучасць. Бо ніхто на свеце не можа замяніць упартасці, а ў барацьбе за сваю незалежнасць тым больш. Мы аптымісты. Мы і далей будзем разлічваць на ўласныя сілы і ўпарта працаваць на карысць нашай любай Бацькаўшчыны-Беларусі.

Нашая Грамада прапануе зрабіць спаборніцтва паміж суполкамі дыяспары па правядзенні мерапрыемстваў на тэрыторыі Радзімы.

Жыве незалежная, суверэнная Беларусь!"

**Яўген Вапа, рэдактар беларускага штотыднёвіка "Ніва" (Беласток, Польшча):**

"Перасякаючы мяжу, неадольна захацелася мне напісаць пра тое, чым для беларуса з суседняй Беласточчыны з'яўляецца ягоная духоўная Бацькаўшчына.

Бацькаўшчына – гэта... калі патэлефануеш у дыпламатычнае прадстаўніцтва Беларусі ў любым кутку свету ды скажаш "Добры дзень", у адказ пачуеш такое ж беларускае, а не "Здравствуйте, слушаю вас". А калі занясеш прашэнне ў візе, то не захвалюешся – дадуць яе табе ці не. Бо калі думаеш па-беларуску, то людзей такіх не надта хоча бачыць твая Бацькаўшчына. І крыўдна, і сорамна, калі з гонарам крочаць цэнтрам беларускай сталіцы псеўдаславянскія вычварэнцы, а табе прадвызначаюць самоту, забыццё, рэзервацыю...

Бацькаўшчына – гэта... калі перасякаеш беларускую мяжу і радуешся культурнасці памежнікаў і мытнікаў, а не натыкаешся на падазронасць ад кожнага слова на роднай мове. Асабісты дагляд,ператрус кніжак і газет толькі таму, што яны на мове Багдановіча і Купалы. А ўсе памежныя дакументы чытаеш і запаўняеш на "общепонятном". Ды ніхто не пажадае табе шчаслівай пабыўкі...

Бацькаўшчына – гэта... калі глядзіш па тэлебачанні перамогу на міжнародным турніры беларускага спартоўца і ведаеш, што праз хвіліну залунае любы кожнаму беларусу бела-чырвона-белы сцяг, а словы і музыка гімна парадуюць веліччу і гістарычнай годнасцю. І радуешся, што тваю духоўную Бацькаўшчыну ведаюць у свеце як краіну людзей культуры і навукі, як сярэднееўрапейскую дзяржаву, да якой хочацца прыехаць, а не як найхутчэй з'ехаць. Краіну гаспадароў і справядлівасці, якую паказваюць у свеце як каштоўнасць усяе нацыі, а не ўласнасць аднаго чалавека...

Бацькаўшчына – гэта... калі шпацыруеш вуліцамі беларускага горада ці мястэчка ды іхнія назвы сваёй мінуўшчынай блізкія твайму сэрцу, а не колюць вочы прозвішчамі катаў, якія ўчынялі над нашымі продкамі злачынствы генацыду. І не трэба табе баяцца, што аштрафуюць толькі за тое, што на тваім касцюме значак з Пагоняй. І ведаеш, што не пасаромеецца за цябе Францішак Скарына, ордэны якога зараз прысвойваюць самым ярым ворагам беларускасці, а шыльды з ягоным імем выкідаюць у сметніцу...

Бацькаўшчына – гэта... калі захочаш пабыць на сваёй Бацькаўшчыне больш за тры дні, дык не будзеш думаць пра штраф з-за недапоўненай прапіскі. А за начлег у гатэлі заплаціш па адным для ўсіх тарыфе, а не ў пяць разоў большым, па замежным...

Бацькаўшчына – гэта... краіна, у якой мае сябры і знаёмыя могуць пахваліцца: гэта мой бізнес, гэта пабудова дома для маёй сям'і, гэта мае дзеці, якія прыйшлі з беларускага канцэрта..."

**Сяргей Шабадалаў, старшыня Грамадскай рады Беларускага культурнага цэнтра "Крок" (Вісагінас, Літва):**

"Маю да прадстаўнікоў беларускай дыяспары з розных краінаў такую прапанову: размясціць на сайце Згуртавання "Бацькаўшчына" інфармацыю пра вопыт правядзення беларускіх святаў, тую ці іншую інфармацыю аб сваіх мерапрыемствах, метадычныя напрацоўкі, сцэнарыі, ноты песняў. Хто займаецца грамадскім жыццём, той ведае наколькі цяжка знайсці гэта ўсё самастойна.

Прапаную зрабіць на сайце "Бацькаўшчыны" (**zbsb.org**) раздзел з назвай "Творчасць" і ўсім дасылаць на яго напрацоўкі з свайго досведу. У кожнай арганізацыі асабіста назапашана, але трэба, каб гэта было здабыткам нас усіх".

## ІНТЭРВ'Ю ЎДЗЕЛЬНІКАЎ З'ЕЗДА



**Падчас працы З'езда ў прадстаўнікоў Інфармацыйнага цэнтра МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" была ўнікальная магчымасць узяць эксклюзіўныя інтэрв'ю ў сяброў "Бацькаўшчыны" з замежжа. Да ўвагі чытачоў падборка інтэрв'ю беларусаў розных краін.**

### Лондан, Англія

**Алена Міхалюк, старшыня Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі:**

"Я прыехала з Лондана на Чацвёрты з'езд беларусаў свету, які цяперака адбываецца тут, у Менску. Уражанні ёсць вельмі прыемныя... Па-першае, вельмі прыгожае надвор'е адпавядае гэтаму з'езду, вельмі многа людзей сабралася. З'езд праходзіць на ўзроўні. Усё так, як належыць, як мае быць. Я прымала ўдзел таксама ў Трэцім з'ездзе і цяпер не хочацца прапусціць наступнага, бо чалавек тут сапраўды пачуваецца як дома. Тут чуецца свая родная мова, тут свае людзі і гэта ёсць вельмі-вельмі важным.

Мы ніколі са сваёй Бацькаўшчынай не разміналіся. Кожны дзень мы думалі, дбалі, працавалі для яе, стараліся зрабіць усё, што маглі. Наша пакаленне ўжо вымірае. Нас засталося ў Англіі – на пальцах пералічыць. Але за намі ідуць маладыя. Ёсць такія сярод іх, якія хочуць працаваць на карысць Бацькаўшчыны. Частка імкнецца далучыцца да нашых суполак і ўдзельнічаць у беларускім грамадскім жыцці. Яны ўсе пачуваюцца з намі разам і стараюцца не быць асобна. У нас агульная мэта – ВОЛЬНАЯ І НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ!"

### Мінск, Беларусь

**Вячаслаў Сіўчык, грамадскі дзеяч:**

"У мяне самыя лепшыя ўражанні пра Чацвёрты з'езд. Хаця калі я на яго ішоў, у звязку з сённяшняй сітуацыяй на Беларусі, думаў, што могуць быць розныя варыянты падзей і вельмі сур'ёзныя мінусы. І я вельмі рады, што адбылося чыста беларускае мерапрыемства, дзе сэнсоўныя беларускія прамовы былі – як у людзей, якія даўно задэкларавалі сябе прыхільнікамі беларускай ідэі, так і ў тых палітыкаў, якія звычайна ў сваіх прамовах звяртаюць увагу на іншыя праблемы беларускага грамадства. Гэта паказвае яшчэ раз важнасць беларускае дыяспары для самой метраполіі, бо наяўнасць дэлегатаў з дальняга замежжа прымусіла сённяшніх беларускіх палітыкаў, нарэшце, гаварыць на прыстойнай беларускай мове і казаць тыя рэчы, якія даўно мусіць чуць беларускі народ. Я проста ўдзячны лёсу, што мае першасныя прагнозы наконт з'езда не апраўдаліся і з'езд адбыўся ў Менску.

Апошнія мерапрыемствы беларускай апазіцыі ўвесь час цярпелі паразы. Але ж З'езд беларусаў свету да паразаў ніякага дачынення не мае, гэта – сход людзей, якія думаюць пра перспектыву для беларускага народа, якія сапраўды такую перспектыву бачаць. І гэта азначае, што ўсётакі на Беларусі будуць перамены".

### Лондан, Вялікабрытанія

**Васіль Еўдакімаў, старшыня Англа-Беларускага Таварыства:**

"Англа-Беларускае Таварыства існуе больш за 50 гадоў. З самага пачатку гэтая арганізацыя склалася дзеля пашырэн-

ня сувязяў паміж брытанскім і беларускім народамі, пашырэння ведаў аб Беларусі ў Брытаніі, гісторыі Беларусі, мовы. Вялікая колькасць вельмі славутых у брытанскім грамадстве людзей зацікавілася гісторыяй і культурай і самім народам Беларусі. Мы супрацоўнічаем са Згуртаваннем Беларусаў Вялікай Брытаніі. Дзякуй Богу, беларусы ў Англіі жывуць у добрых стасунках паміж сабой.

Гэты З'езд, на мой погляд, паспяхова працягвае традыцыі з'ездаў папярэдніх: вельмі добрая магчымасць людзям убачыць, што мы адна нацыя, дзе б мы не жылі. Сам З'езд робіць для кансалідацыі нацыі вельмі шмат, бо людзі прыязджаюць і адчуваюць сябе кавалачкам нечага адзінага.



Спадзяюся, што з'езды беларусаў будуць працягвацца і далей, бо гэта вельмі важная справа для кансалідацыі нацыі. Зараз праз сродкі электроннай інфармацыі пашыраюцца сувязі паміж беларусамі розных краінаў. Мы ведаем, што робіцца ў беларусаў Польшчы, Балтыі, Германіі. Сувязі гэтыя будуць пашырацца і далей, моладзь пачынае браць больш актыўны ўдзел, ствараюцца згуртаванні беларускіх студэнтаў у Еўропе. Я з аптымізмам гляджу на развіццё гэтых сувязяў".

## Зіген, Германія

**Язэп Паўловіч, старшыня Рэгіянальнай арганізацыі МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" ў Германіі:**

"Сітуацыя з беларусамі ў Германіі – складанае пытанне, бо беларусаў у Германіі дастаткова многа, але яны належаць да рознай генерацыі, маюць розную ступень зацікаўленасці ў кантактах. Многія жывуць адасобленым жыццём. Што датычыць палітычнай эміграцыі – гэта таксама складанае пытанне, бо ёсць людзі, якія праяўляюць цікавасць толькі да таго моманту, пакуль атрымаюць дазвол на жыхарства.

Праблема ў тым, што, на жаль, пакуль няма беларускага Дома, нейкага цэнтра, пэўнай беларускай тэрыторыі. Былі праекты з Беларускай Аўтакефальнай Царквой у Баварыі, але пакуль што гэта не пайшло. У Германіі ёсць беларускія суполкі, якія займаюцца толькі чарнобыльскімі праблемамі, але яны абыякавыя да беларускай мовы. Што робіцца ў беларусаў у Берліне, я даведваюся толькі са "Свабоды". Спадар Мурашка спрабаваў выйсці на Задзіночанне беларускіх студэнтаў і яшчэ на нейкую арганізацыю, але чамусьці яму гэта не ўдалося. У нас са спадаром Мурашкам спарадычныя кантакты, у асноўным тады, калі ўзнікаюць агульныя справы, напрыклад, калі ладзілі пікет у Боне.

Я быў на ўсіх З'ездах беларусаў свету і маю магчымасць параўнання. Колькасна гэты З'езд меншы за Першы. Але першыя з'езды былі больш рамантычныя. Апошні ж З'езд адрозніваецца нейкім драйвам. Гэта ўжо пэўная супольнасць людзей, якія гатовыя працаваць разам. Раней было заўважна, што людзі, якія прыязджаюць і выступаюць – адчуваюць сябе гасцямі. А зараз прыехалі людзі вырашаць праблемы, яны актыўна працуюць у сваіх суполках. Таму ўражанні самыя прыемныя. Я пабачыў амерыканскіх беларусаў, маладых і актыўных. Зараз з'явілася такая энергія, якой не было ні на адным з'ездзе!"

## Нью-Ёрк, ЗША

**Янка Запруднік, доктар гісторыі, пісьменнік, грамадскі дзеяч:**

"На З'езд я прыехаў з пачуццямі радасці, бо паварот на Бацькаўшчыну, які ў маім жыцці адбываецца перыядычна, кожны раз выклікае новыя пачуцці ў сувязі з тымі зменамі, якія адбываюцца тут. Уражанне такое: вонкавы выгляд лепшы, нутраны – горшы. З кожным годам чысцейшыя вуліцы, больш акуратныя гарады. Але калі размаўляеш з людзьмі, чуеш, якія бар'еры яны пераадольваюць у штодзённым жыцці, перашкоды эканамічным ініцыятывам, бюракратычныя перашкоды, перашкоды культурнай і арганізацыйнай ініцыятыве. Таму ў мяне і радасць, і смутак, і весялосць, і спачуванне.

Думаю, што З'езд вельмі трапна названы і вельмі добрая тэма дадзеная гэтаму З'езду. Кантакт з дыяспарай – гэта кантакт з вонкавым светам, гэта перамаганне тае ізаляцыі, якая стварылася вакол Беларусі ў выніку палітыкі заціскання свабоды слова, якая, на жаль, і да сёння практыкуецца. Беларусь патрабуе як мага больш інфармацыі пра заходнюю навукова-тэхнічную думку, пра ўстаноўленыя стандарты, каб выходзіць са сваімі таварамі на замежны рынак. Адставанне Беларусі можна ліквідаваць толькі пры дапамозе як мага цяснейшых кантактаў з вонкавым светам, а дыяспара якраз і ёсць той масток да вонкавага свету. Людзі дыяспары – гэта людзі падвойнай культуры, абазнаныя ў беларускай рэальнасці; яны могуць быць свайго роду "гідамі" для прадстаўнікоў Беларусі на тым замежным свеце і рынку.

Адбываецца вялікая біялагічная змена адной хвалі эміграцыі другой хваляй. Перайманне эстафеты грамадскага жыцця атрымліваецца вельмі няпроста. У людзей майго пакалення дзейнасць матывавалася глыбокімі нацыянальнымі пачуццямі, а людзі новага пакалення эміграцыі – гэта прадукт савецкай школы, дзе маладое пакаленне ўзгадоўваецца ў атмасферы русіфікацыі. Яны прыязджаюць са значна заніжанай нацыянальнай свядомасцю, тым не менш, сярод іх ёсць вельмі шчырыя беларусы, якія горнуцца да беларускай дыяспары.

Напрыклад, у нас у Амерыцы цяпер газета "Беларус" працягвае працаваць дзякуючы маладым новым беларусам; "Запісы Беларускага інстытута навукі і мастацтва" (Нью-Ёрк) выходзяць дзякуючы новым маладым навукоўцам; Аддзел Беларуска-Амерыканскага Задзіночання ў Нью-Ёрку папоўніўся ў вялікай меры маладымі беларусамі.

З'езды даюць выдатную магчымасць для дыялогу прадстаўнікоў беларускай дыяспары з розных краін. Думаю, што імпульс, які дае З'езд, вядзе да пераасэнсавання некаторых ацэнак, некаторых каштоўнасцяў. Дай Божа, каб з'езды адбываліся далей, бо яны надзвычай патрэбныя як для дыяспары, так і для Бацькаўшчыны".

## Нью-Ёрк, ЗША

**Вітаўт Кіпель, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНіМ):**

"Я сталы чытач бюлетэня "Беларусы ў свеце", які выдае "Бацькаўшчына". У беларускім руху я па-над 60 гадоў, і мне гэты бюлетэнь вельмі падабаецца, бо, як адкрываю яго, атрымліваю ясную карціну пра дзейнасць беларусаў ва ўсім свеце. Шчыра жадаю, каб гэты бюлетэнь выходзіў далей, бо ад чытання яго паляпшаецца настрой.

Я прыехаў на З'езд з тымі ж думкамі, з якімі прыязджаў на ўсе папярэднія: даведацца, што робіць дыяспара, што робіцца ў Менску, пачуць нашы праблемы і вырашыць, што рабіць далей. Я лічу, што мы прагрэсуем, бо за гэтае дзесяцігоддзе такога форуму ў нас яшчэ не было, каб мы сустракаліся з цэлага свету на пару дзён, дыскутавалі агульныя праблемы, вырашалі спецыфічныя праблемы, стараліся іх палепшыць. Я ўпэўнены, што ў кожнага ўдзельніка настрой больш аптымістычны пасля З'езда.

Спецыфіка гэтага З'езда ў параўнанні з папярэднімі найперш у тым, што прыехалі людзі, якія актыўна ўдзельнічаюць у нашым руху: ці то яны вядуць невялічкую школу ў Латвіі, ці то яны ўдзельнічаюць у суполцы у Кыргызстане. Яны трымаюць руку на пульсе беларускага жыцця. Гэта вельмі пазітыўная адзнака. Па-другое, прыехалі людзі, якія вельмі крытычна глядзяць на стан нацыянальнай культуры. Бясспрэчна, што на такіх з'ездах кантактаў вельмі шмат. Напрыклад, я пазнаёміўся з беларусамі з Сібіры з Таварыства імя Яна Чэрскага. Думаю, што такія з'езды спрыяюць асабістаму ўзмацненню ахвоты працаваць.

На З'ездзе быў агучаны праект ства- ➲

рэння даведніка аб дыяспары. БІНіМ даўно выступаў з гэтай прапановай. Я задаволены, што "Бацькаўшчына" пайшла насустрач, і праз пару гадоў, я думаю, такі даведнік будзе".

## Бішкек, Кыргызстан

**Тамара Плавінская, намеснік старшыні Беларускага культурнага цэнтра "Крыніца":**

"Наш цэнтр працуе ўжо чатыры гады. Мы займаемся прапагандай беларускай мовы, рэалізуем культурныя праграмы, адзначаем беларускія святы. Прадстаўляем беларускую культуру на рэспубліканскіх святах. З верасня цэнтр "Крыніца" пачынае цесна супрацоўнічаць з нацыянальным універсітэтам Кыргызстана: арганізуем шырокія курсы беларусазнаўства і беларускай мовы.

Мы вельмі ўдзячныя згуртаванню "Бацькаўшчына" за фінансавую падтрымку ў справе прыезду на З'езд беларусаў свету. Гэты дало магчымасць сустрэцца з землякамі, паслухаць, чым яны жывуць, таму што ў беларусаў Кыргызстана вялікі інфармацыйны голад, які яшчэ страшнейшы за фінансавыя праблемы.

Мы ўдзячныя "Бацькаўшчыне" за тое, што яны адгукнуліся на наш заклік працаваць разам. Мы звярталіся ў таварыства "Радзіма", да беларускай амбасады. Але яны абыякава паставіліся да нас і зацікаўленасці ў іх не было.

На З'ездзе добрая арганізаванасць, сяброўская атмасфера, дэмакратычныя ўмовы. Прыехалі неабыякавыя людзі; яны хварэюць за праблемы Беларусі, прапускаюць іх праз сэрца. Атрымалася ўсталяваць кантакты з беларусамі Калініграда, абмяняліся візіткамі з многімі людзьмі, пазнаёміліся з беларусамі з Літвы. Мы будзем працаваць далей".

## Рыга, Латвія

**Таццяна Касуха, рэдактар беларускіх праграм на Чацвёртым канале Латвійскага радыё "Домская плошча":**

"На працягу апошніх двух гадоў культурна-асветніцкае жыццё беларусаў у Латвіі стала значна больш актыўным. Гэта звязана найперш з тым, што пачалі дзейнічаць праекты, якія рэалізуюць беларускія суполкі з уступленнем Латвіі ў Еўразвяз. У жніўні заканчваецца гадавы праект пад кіраўніцтвам Таццяны Казак, старшыні беларускага таварыства "Сьвітанак". У межах праекта адбылося шмат цікавых мерапрыемстваў. Тыдзень таму скончыліся Дні беларускай культуры ў Вентспілсе. Гэта было першае мерапрыемства такога буйнога маштабу.

Аднак трэба адзначыць, што беларуская дыяспара ў Латвіі неаб'яднаная і падзеленая. Ёсць таварыства "Сьвітанак" выразна дэмакратычнага кірунку, і ёсць Саюз беларускіх суполак Латвіі. Калі дзесяць гадоў таму такога падзелу не было, то зараз гэта выяўлена вельмі яскрава.

Хацелася б закрануць праблему асветы. Нядаўна адбыўся трэці выпуск Рыжскай асноўнай беларускай школы. На гэтую школу было патрачана шмат сіл і ўсе ўскладалі вялікія надзеі. У школе дзеці заканчваюць 9 класаў, далей паўстае пытанне – куды ісці вучыцца. Калі дзеці пасля ідуць у рускую альбо латышскую школу, то традыцыі Рыжскай беларускай школы губляюцца.

Усе нацыянальныя дыяспары Латвіі маюць падтрымку сваіх дзяржаў: палякі, яўрэі, украінцы. Пакуль жа пытанне падтрымкі нашай школы вісіць у паветры, хаця школа сертыфікавана, яна атрымала акрэдытацыю, там добры настаўніцкі склад. Пакуль што размовы пра падтрымку беларускай дзяржавай застаюцца толькі словамі. Для таго, каб беларускія дзеці з Латвіі маглі працягваць вучобу ў Беларусі, у Латвію выязджае спецыяльная камісія, адбываюцца экзамены і абраныя едуць на бясплатную вучобу ў Беларусь. Але гэты працэс зачынены, і асабіста я ніколі не сустракала аб'явы пра іспыты і працу гэтай камісіі.



Калі мы прыехалі на Першы з'езд беларусаў свету, на прывакзальнай плошчы віселі вялізныя транспаранты "Вітаем удзельнікаў Першага з'езда беларусаў свету!" Людзі, якія нават не мелі дачынення да беларускай справы падчас удзелу ў Першым з'ездзе, ехалі ў свае краіны, каб займацца там беларускімі справамі, і на з'ездзе пачыналі размаўляць па-беларуску. Такое моцнае натхненне даваў Першы з'езд, і такая на ім была моцная аўра.

На Чацвёртым з'ездзе захаваны дух "Бацькаўшчыны" як арганізацыі. На з'ездзе сустракаешся з аднадумцамі і бачыш, што твае ідэі падзяляюць многія, бачыш людзей, якія жывуць тымі ж справамі. І гэта дае новыя сілы".

## Рыга, Латвія

**Вячка Целеш, старшыня аб'яднання беларусаў-мастакоў Балтыі "Маю гонар":**

"Мяне хвалюе пытанне з накіраваннем дзяцей на вучобу ў Беларусь. Раней людзі ведалі, што ёсць школа і што можна пайсці вучыцца далей. Была ў Рызе асноўная беларуская школа і была нядзельная школа, дырэктарам якой я працаваў. Мы вучылі дзяцей беларускай мове, гісторыі і культуры Беларусі, і яны, калі прыязджалі ў Беларусь, добра ўліваліся ў асяроддзе.

Зараз зусім іншыя адносіны, палітыка змянілася ў адносінах да нашай школы і Таварыства "Сьвітанак". Выбралі патрэбных людзей, зрабілі Саюз беларускіх грамадскіх арганізацый, які ўзначаліла жанчына, далёкая ад нашай культуры, ад беларускай школы – Валянціна Піскунова. Саюз не дапамагае беларускай школе, але В.Піскунова вырашае, якіх дзяцей паслаць вучыцца ў Беларусь. Саюз падтрымлівае толькі тых, хто падзяляе іх палітычныя погляды...

Галоўная заслуга Згуртавання "Бацькаўшчына" – у аб'яднанні беларусаў, якія маюць сваю пазіцыю, а пазіцыя ў нас адна – беларуская незалежная дэмакратычная дзяржава пад гербам "Пагоня", сімвалам нашай гісторыі і дзяржавы. Лічу гэта асновай аб'яднання людзей на З'ездзе. Тут яднаюцца менавіта такія людзі.

З'езд натхняе нас, дае настрой і энергетыку. Мы бачым, што мы не адныя, а ва ўсім свеце ёсць такія ж самыя нашыя аднадумцы. Хацеў бы пажадаць, каб "Беларусы ў свеце" сталі газетай большага памеру, каб падаваць яшчэ больш інфармацыі. Нягледзячы на наяўнасць Інтэрнета, нам вельмі важна, каб да нас даходзіла добрая прэса".

## Вільня, Літва

**Павел Саўчанка, сябра Таварыства беларускай культуры Літвы:**

"Я быў на ўсіх з'ездах, мне вельмі прыемна быць і зараз у нашай сталіцы Менску. Першы з'езд быў уздымам, незвычайнай з'явай і знамянальнай датай, бо мы ўпершыню сустрэліся з беларусамі свету. Другі і Трэці з'езд прайшоў на нейкі градус ніжэй. А вось Чацвёрты з'езд – мы не чакалі, што так добра атрымаецца, бо ведаем, які ціск ёсць на грамадскія арганізацыі. З'езд прайшоў вельмі прадстаўніча, бо прыехала многа дэлегацый з розных краінаў. Атрымалася сустрэцца з Вітаўтам Кіпелям з Амерыкі, з Аленай Міхалюк з Англіі, былі прадстаўнікі з Канады. Вельмі прыемна, што ўдзел бярэ не толькі старая эміграцыя, але і моладзь замежжа.

На гэтым з'ездзе не было такіх правакацыйных выступаў з мэтай сарваць работу, як гэта было на 2-м і 3-м з'ездах. Вялікі дзякуй кіраўнікам.

Вельмі актыўна ў жыццё дыяспар сталі ўмешвацца супрацоўнікі беларускіх амбасадаў, і робяць вельмі негатыўны ўплыў, каб разваліць станоўчую працу. Тое ж адбываецца і ў Літве, напрыклад, у Вільні. Дзякуй Богу, на гэтым з'ездзе не было прадстаўнікоў тых суполак, якія створаны гэтымі амбасадамі.

Вельмі ўдзячны за запрашэнне на

З'езд. Упэўнены, што новае кіраўніцтва "Бацькаўшчыны" працягне працу і прыкладзе намаганні, каб надалей гуртаваць беларусаў свету".

## Беласток, Польшча

**Алег Латышонак, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства ў Польшчы:**

"Перш за ўсё, беларусы на Беласточчыне – не дыяспара, а аўтахтонныя жыхары гэтае зямлі. Сітуацыю на Беласточчыне акрэсліваюць вынікі перапісу насельніцтва, калі высветлілася, што на Беласточчыне пражывае 46 з паловай тысяч беларусаў (казалі, што беларусаў дзесьці тысяч 15). Гэта вынікі настолькі добрыя, што яны абумовілі ход падзей за апошнія некалькі гадоў. Атрымалася, што мы адзіная нацыянальная меншасць у Польшчы, якая можа дамагацца тэрытарыяльнай аўтаноміі. Украінцаў аказалася толькі 30 тысяч, літоўцаў 5 тысяч.

У мяне такое адчуванне, што беларуская нацыянальная свядомасць і згуртаванасць у Польшчы мацнеюць. Але нельга спадзявацца, што гэта будзе развівацца ў нашых краях хутка, паколькі на нас вельмі кепска ўплывае сітуацыя ў Беларусі. Відаць, што ўлады не падтрымліваюць беларушчыны. Відаць, што ўлады ў сваёй дзяржаўнай палітыцы абсалютна не маюць нічога супольнага з беларушчынай.

Мы, беларусы Беласточчыны, былі на ўсіх з'ездах беларусаў свету. Гэты з'езд, няма чаго хаваць, адбываецца намнога больш сціпла, паколькі на пачатку з'езды былі справай дзяржаўнай. Але гэты з'езд мне вельмі падабаецца тым, што ён вельмі дзелавы. Прыехалі людзі, якія ведаюць, чаго хочуць. Я з гэтага з'езда з'язджаю вельмі задаволены, я набраўся духу, бачу, што ніхто не думае здавацца, што тыя, хто адстойвалі, і далей адстойваюць сваё, і мне гэта вельмі падабаецца.

З'езд не можа паўплываць на стаўленне дзяржавы да праблемаў дыяспары. Я ведаю, як гэтая дзяржава ставіцца да беларусаў у свеце, і што робяць прадстаўнікі гэтай дзяржавы ў Беласточчыне. Ад гэтай дзяржавы мы нічога не чакаем, ані я, ані мае сябры".

## Беласток, Польшча

**Яўген Вапа, рэдактар беларускага штотыднёвіка "Ніва":**

"Калі газета "Ніва" апынулася ў цяжкай сітуацыі, спрацавала звычайная беларуская салідарнасць, адгукнуліся беларусы з усяго свету. Гэта сведчыць пра тое, што мы ўжо даспелі да ўзроўню, калі дзенебудзь б'юць беларуса, то за яго заступаюцца свае. Гэта важны момант у адраджэнні нацыі і адчуванне сваёй годнасці.

Усе звароты і лісты беларусаў свету ў падтрымку "Нівы" былі нечаканасцю для ўсіх. Многія думалі, што будзе, як заўсёды – ёсць справа, усе пагавораць, але ніхто не заступіцца. Але ўсе лісты да вышэйшага кіраўніцтва Польшчы спрацавалі. Там пачалі думаць, што калі так шмат пратэстаў, значыць не ўсё так звычайна з гэтай справай. Дзяржаўныя ўстановы Польшчы пабачылі акт салідарнасці. Мы зараз чакаем апраўдальнага рашэння суда.

Усе суполкі, якія прыехалі на з'езд, усе заступіліся за "Ніву". І таму для мяне гэта вялікі прыемны абавязак – выступіць на З'ездзе, каб падзякаваць за падтрымку".

## Масква, Расія

**Генадзь Лех, старшыня Грамады беларускае культуры імя Ф.Скарыны места Масквы:**

"Нашая арганізацыя ўжо існуе больш за 18 гадоў, за якія ўсё змянілася. У свой час у нас у складзе было шмат беларускіх пісьменнікаў, шмат культурных дзеячаў. Зараз гэтае пакаленне проста фізічна адыходзіць. І ў той жа час у Маскве з'явілася шмат маладых беларусаў, якія зараз шмат у чым робяць жыццё беларускай дыяспары. Гэта маладыя людзі, якія любяць сядзець у Інтэрнеце, сачыць за гасцёўнямі і сайтамі, яны з задавальненнем ходзяць на мітынгі і пікеты ў абарону незалежнасці Беларусі і беларускай мовы, у падтрымку палітвязняў. У мінулым годзе мы 8 разоў пікетавалі беларускую амбасаду. У маладых ёсць жаданне быць беларусамі, яны хочуць быць заможнымі, што вельмі добра. Мне як бізнесоўцу ёсць у іх чаму павучыцца, бо яны ў добрым сэнсе наступаюць мне на пяткі. Яны вельмі прагматычныя, у іх няма ў галаве ідэалагічнай "жвачкі".

Старэйшае пакаленне, якому ўжо цяжка выконваць абавязкі, перадае тыя добрыя традыцыі, якія былі імі народжаныя. Таму сёння ў нас ёсць пэўная пераемнасць. Я адношуся да сярэдняга пакалення, якое імкнецца дапамагчы гуртаванню маладых.

Шкада, канешне, што знікаюць беларускія парафіі і асяродкі. Але ўпэўнены, што рана ці позна пачнецца пералом. Як пачнецца пералом у ментраполіі, так адразу ў Расіі з 1 мільёна беларусаў стане 2-3. Як у Расіі, так і ў свеце шмат беларусаў не вызначыліся як беларусы, бо зараз ім няма чым ганарыцца, нельга ж ганарыцца сучаснай беларускай дзяржавай.

Нашая арганізацыя даўно супрацоўнічае з Таварыствам беларускай культуры ў Літве. Вельмі добрыя стасункі з польскімі беларусамі. Калі ў Польшчы былі праблемы з перайменаваннямі вуліц, мы дасылалі туды свае адозвы, галасавалі. У нас таксама старыя добрыя стасункі з Таварыствам "Сьвітанак" у Латвіі і, вядома, добрыя сувязі з беларусамі ў Эстоніі. Ёсць сувязі з беларусамі ў Амерыцы, але адлегласць накладае свой уплыў. У Канадзе ёсць цудоўная жанчына Раіса Жук-Грашкевіч, з якой мы маем сталае ліставанне, яна піша, дасылае кнігі. Хацеў бы праз бюлетэнь "Беларусы ў свеце" падзякаваць. Да нас усё прыходзіць і з "Бацькаўшчыны", і ад беларусаў Літвы, і ад спадарыні Раісы, за што вялікі дзякуй.

Я прыехаў на З'езд з мэтай, каб не даць змяніць накірунак дзейнасці Згуртавання "Бацькаўшчына", бо мяне, канешне, палохае з'яўленне "саюзных" беларусаў, арганізацыі якіх утварыліся ў 99-м годзе, з'яўленне тых "беларускіх" выданняў, якія фінансуюцца ўрадам Расіі і Масквы абсалютна прасавецкага і прасаюзнага накірунку. Гэта пераважна былыя і дзейсныя чыноўнікі, адстаўныя службоўцы КГБ і ФСБ, якія праводзяць прарасійскую і нават часам чарнасоценную палітыку. Мяне гэта палохае, і я як кіраўнік "старой" беларускай дыяспары, якая было створана знізу і аб'ядноўвала жывых людзей – студэнтаў, навукоўцаў, рабочых, бізнэсоўцаў, я не магу пагадзіцца на такое.

Гэты З'езд мае важнае значэнне. Былі адкрыта паказаны лічбы, як змяншаецца беларуская супольнасць у свеце, былі названыя працэсы змены пакаленняў і страта некаторых асяродкаў. З'езд павінен знайсці шляхі, як гэта спыніць. І скажу тое, што цяжка сказаць, але Згуртаванню "Бацькаўшчына" пэўна прыйдзецца працаваць з тым урадам і ўладай, якая ёсць сёння на Беларусі. Нягледзячы на ўсю непрыемнасць, але пэўна прыйдзецца, пасыпаўшы галаву попелам, даказваць, расказваць, удакладняць, абхадзіць, пераконваць, пагадняцца, але па-сапраўднаму прымусіць урад неяк актывізаваць стасункі з дыяспарай з мэтай умацавання асяродкаў.

Мне не ўсё падабаецца ў дзейнасці "Бацькаўшчыны", і асабліва жаданне ўсадзіць усіх беларусаў у адну лодку. Так, мы вельмі розныя і па палітычных поглядах, і па веравызнанні і ў шмат іншым, але ёсць пытанні, у якіх адступаць нельга. Гэта пытанні беларускай мовы, беларускай культуры і беларускай дзяржаўнасці. Гэта тыя падмуркавыя камяні, праз прызму якіх Згуртаванне беларусаў свету павінна глядзець на дыяспару. Калі арганізацыя прымае гэты падмурак – яно павінна быць сябрам Згуртавання. Прыманне сяброў, якія ў прынцыпе не вызнаюць



нічога беларускага, лічу не вартым, бо Згуртаванне павінна быць больш маналітным. Хай гэта будуць людзі камуністычных перакананняў, нацыяналістычных, ліберальных, любой веры, сексуальнай схільнасці, – гэта не мае ніякага значэння, галоўнае, каб яны былі беларусамі.

На З'езд жа прыехалі некаторыя людзі, якія нічога беларускага не прымаюць, але чамусьці называюць сябе беларусамі, на самой справе з'яўляючыся прыдаткамі нейкіх шавіністычных расійскіх колаў. Таму я ўжо сказаў на З'ездзе, што трэба вельмі сур'ёзна падысці да крытэрыя "беларуская арганізацыя".

Хацеў бы падкрэсліць, што беларусы ў Расіі аб'яднаныя ў 2 структуры: Міжрэгіянальнае аб'яднанне беларусаў Расіі і Федэральная аўтаномія так званых "саюзных" беларусаў. У іх прынцыповая розніца. І ліквідаваць такую рознасць у поглядах – немагчыма, ёсць людзі, якія не прымаюць ні беларускую дзяржаўнасць, ні беларускую мову, ні беларускую культуру. Таму да такіх людзей не варта ўжываць крытэрый "беларус" і "беларускасць". І ніякіх кампрамісаў з імі быць не можа.

У многім беларускія суполкі самі павінны праяўляць актыўнасць. Мы пастаянна запрашаем да сябе выступіць беларускія ансамблі, беларускіх дзеячаў. Зараз мы аб'явілі конкурс на стварэнне лепшага беларускага гістарычнага рамана, стварылі добры прызавы фонд і гатовыя супрацоўнічаць з любой арганізацыяй беларускай дыяспары. Пры нагодзе запрашаем усіх беларусаў да ўдзелу ў конкурсе, ці то з Беларусі, ці то з Канады – з любой краіны. Дасылайце свае творы.

У нас не надта вялікія магчымасці, але мы хочам самі дапамагаць Беларусі, мы любім сваю краіну і хочам у яе вяртацца".

## Іркуцк, Расія

**Алег Рудакоў, старшыня Іркуцкага таварыства Беларускай Культуры імя Яна Чэрскага:**

"У Расіі існуе дзве вялікія асацыяцыі беларускіх суполак. Першая – Міжрэгіянальнае аб'яднанне беларусаў Расіі (МАБР), а другая – Федэральная Нацыянальна-Культурная Аўтаномія беларусаў Расіі (ФНКА). Нашае Таварыства ў свой час прымала ўдзел у стварэнні Міжрэгіянальнага Аб'яднання беларусаў Расіі. Калі ж утваралася ФНКА, мы былі запрошаныя туды ў якасці гасцей, але мы туды не ўваходзім афіцыйна. Там мы маем права голасу і права выказваць свае пажаданні. Я лічу, што і МАБР, і ФНКА не робяць тую працу, на якую мы спадзяваліся, калі ўдзельнічалі ў іх стварэнні. Яны не працуюць, бо не маюць ніякай аб'ядноўваючай ідэі. МАБР ужо фактычна існуе толькі на паперы. Туды ўваходзяць тыя старыя беларускія арганізацыі Расіі, якія былі ўтвораныя ў сярэдзіне 90-х гадоў. Але ніякай каардынацыйнай працы і ўзаемных стасункаў няма. Мы працуем у Іркуцку аўтаномна, самі па сабе. Таму я лічу, што існаванне гэтых структур на сённяшні дзень непатрэбна. ФНКА нешта робіць у самой Маскве, але гэта нас не датычыць. Адзіная сур'ёзная справа – гэта выданне газеты "Беларусы Расіі", і ў гэтай газеце іншым разам друкуюць навіны з суполак і ёсць трохі цікавыя артыкулы. Але гэта, бадай, і ўсё".

## Іркуцк, Расія

**Вольга Галанава, Іркуцкае таварыства Беларускай Культуры імя Яна Чэрскага:**

"Я першы раз прыехала на з'езд. Я вельмі рада, што так многа людзей хвалююць беларускія праблемы, яны хочуць быць разам. Але мне не спадабалася, што ў першы дзень занадта шмат гаварылі пра палітыку. Гэта былі размовы не пра людзей і як ім дапамагчы, а апісанні палітычных праграм. Другі дзень мне спадабаўся нашмат больш, калі мы разбіліся на секцыі, дзе сапраўды пачалі працаваць і вырашаць канкрэтныя праблемы і што рабіць далей.

З'езд вельмі добра падымае настрой і дае больш упэўненасці, але не ўсе мае чаканні апраўдаліся. Хацелася б яшчэ больш прадстаўнікоў маладых беларускіх суполак свету".

## Іркуцк, Расія

**Алена Сіпакова, Іркуцкі маладзёжны клуб "Крывіч":**

"Я прадстаўляю беларускі маладзёжны клуб "Крывіч" г. Іркуцка, і таму мне б вельмі хацелася паразмаўляць з такімі ж аднадумцамі, якія займаюцца такой жа справай. У першую чаргу мяне цікавіць абмен вопытам, вельмі хацелася б распрацаваць нейкі сумесны праект альбо абмен маладзёжнымі дэлегацыямі з іншымі суполкамі.

У Іркуцку ёсць пераемнасць пакаленняў беларусаў: гэта дзіцячы клуб "Зярнятка", гэта маладзёжны клуб "Крывіч" і гэта вялікая, з шасцю філіяламі, абласное іркуцкае Таварыства беларусаў імя Яна Чэрскага.

Гэты З'езд, безумоўна, нашмат лепшы, чым з'езд ФНКА (Федэральная Нацыянальна-Культурная Аўтаномія беларусаў Расіі). Там былі размовы ні аб чым. Былі незразумелыя планы, далейшых дзеянняў, нараканні на становішча. ФНКА фактычна не існуе, моладзі там увогуле няма, сядзелі ветэраны вайны і старыя людзі са слыхавымі апаратамі. Нейкія чыноўнікі трубілі справаздачы. А потым быў канцэрт, на якім было мала беларускага: выступалі цыгане і інш.

У адрозненне ад з'езду ФНКА, на З'ездзе беларусаў свету можна было працаваць, асабліва падчас працы ў секцыях. Вельмі добра, што тут была магчымасць набыць дыскі і касеты з беларускай музыкай, беларускія кнігі. Думаю, што ў З'езда мог бы быць і яшчэ адзін дзень працы".

## Севастопаль, Украіна

**Валеры Барташ, старшыня Севастопальскага Таварыства беларусаў імя М.Багдановіча "Пагоня":**

"З'езд беларусаў свету – гэта доўгачаканая падзея, якая дае падставы для аптымізму. Будучае нашай Беларусі светлае, чыстае, еўрапейскае. Пацвярджэннем гэтаму – тая перакананасць удзельнікаў З'езда, больш малады склад дэлегатаў і ўпэўненасць у праваце сваёй справы. Задачай нумар адзін з'яўляецца кансалідацыя беларусаў усяго свету і, перад усім, кансалідацыя беларусаў у самой Беларусі. Актуальнасць гэтай павесткі сведчыць пра прадуманасць тэмы З'езда.

Наконт спраў беларусаў у Севастопалі магу сказаць, што перыяд гарачага супрацьстаяння сярод беларусаў прайшоў. Беларусы пачынаюць разумець, што самае галоўнае – стацца і быць народам, захаваць сваё ўласнае аблічча. І ніякі панславізм, ніякае аб'яднанне ў агульную саюзную дзяржаву не заменіць свайго ўласнага беларускага дома, дзе мы будзем гас-



падарамі свайго лёсу. Я ўпэўнены, што да гэтага прыйдуць усё болей і болей беларускіх людзей. Прыйдзе час, калі ўсе ўзгадаюць нацыянальныя сімвалы, і мы зможам гаварыць аб гонары і годнасці. Я не сумняваюся, што маладое пакаленне – прагматычнае, не затлумленае ідэалагічнымі ўстаноўкамі, яно і зробіць высновы. Я не сумняваюся, што наш народ, як і народ Украіны, устане з кален".

## Палтава, Украіна

**Іна Снарская-Дзідык, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, сябра Саюза журналістаў Украіны:**

"Я дужа рада, што прыехала на З'езд. Мне прыемна, што прымала ўдзел ва ўсіх з'ездах – з першага да чацвёртага. Згуртаванне "Бацькаўшчына" робіць вялікую справу. Я ведаю, што ў цяжкіх і амаль невыносных умовах вы здолелі падняць гэты з'езд і правесці яго. Ёсць, канешне, адрозненні паміж атмасферай Першага і гэтага з'езда. Тады ўсё беларускае падтрымлівалася, на з'ездзе было ўсё кіраўніцтва дзяржавы. На жаль, зараз дзяржава не ідзе на кантакт з беларускай дыяспарай.

Галоўнае дасягненне Чацвёртага з'езда – гэта тое, што мы даведаліся, што робіцца ў беларусаў у розных краінах свету. Хачу пажадаць "Бацькаўшчыне" працаваць і надалей. Мы – беларусы замежжа – будзем дапамагаць. Вы вельмі шмат робіце таго, што грэе нашу душу там, у замежжы. Жыве Беларусь!"

## Прага, Чэхія

**Рыта Гаціх, сябра Беларускай суполкі "Скарына":**

"Дыяспара зараз амалоджваецца. Гэта натуральны працэс, калі старое пакаленне адыходзіць. Для беларускай дыяспары ў Чэшскай Рэспубліцы ўласціва тое, што яна не надта аб'яднаная, па той прычыне, што кожны едзе туды з рознай мэтай. Пра большасць з іх нельга казаць як пра дыяспару, бо яны ўладкоўваюцца на працу і займаюцца паляпшэннем дабрабыту. Але ёсць тыя, хто не абыякавы да справы: супрацоўнікі Радыё "Свабода", палітычныя ўцекачы, іншыя актыўныя людзі, якія вядуць грамадскае жыццё і аб'ядноўваюцца ў суполкі.

У Міністэрстве юстыцыі Чэшскай Рэспублікі зараз зарэгістраваны 3 арганізацыі беларусаў. Прыемна, што з мінулага года з'явілася вельмі шмат беларускіх студэнтаў; толькі з Віцебска прыехала 30 чалавек. Яны самі вывучаюць чэшскую мову і едуць вучыцца. Яны звычайна здымаюць нейкую кватэрку, уладкоўваюцца на працу, напраклад, мятуць вуліцы, і атрымліваюць еўрапейскую адукацыю. На жаль, амаль усе мараць працягваць сваё жыццё ў Еўропе.

Сярод іх ёсць вельмі пасіўныя людзі. Напрыклад, гэта прадстаўнікі беларускага ліцэя, славутага "коласаўскага" ліцэя, якія прыязджаюць і абсалютна не адгукаюцца. Мы нават ездзілі да іх, размаўлялі, але яны не выходзяць на кантакт абсалютна і нават размаўляюць па-расейску. Таму склалася ўражанне, што вакол ліцэістаў проста створаны нейкі міф. Але ёсць і такія людзі, якія прыязджаюць, нікога не ведаюць, але знаходзяць беларускія арганізацыі і бяруць удзел у грамадскім жыцці.

Мяне дэлегавалі на З'езд каб завязаць новыя стасункі, пазнаёміцца з цікавымі людзьмі і пашыраць інфармацыю аб беларусах у Чэхіі. На З'ездзе атрымалася завязаць новыя кантакты, атрымаць карысную інфармацыю, наладзіць стасункі, атрымаць новыя газеты беларусаў з Іркуцка, з Пецярбурга. Ёсць планы свайго выдання ў Празе. Уражанні пра З'езд добрыя, усе тут даволі ахвочыя да працы.

Хочацца, каб у Беларусі ведалі, што беларусы ёсць за мяжой, што яны там жывуць, што яны сапраўды беларусы, што маюць свае школкі, да нечага імкнуцца".

## Швейцарыя

**Ларыса Пліско-Балі, грамадскі дзеяч:**

"Сувязяў з іншымі беларусамі Швейцарыі ў мяне пакуль няма, але я не губляю надзею. Я пачала іх актыўна шукаць па тэлефонным даведніку і праз аб'явы ў газетах. На З'ездзе прафесар А.Мальдзіс падказаў некаторыя каардынаты людзей у Швейцарыі, якія валодаюць беларускай мовай. Думаю, што мы хутка сустрэнемся і падумаем, як нам ладзіць нашыя беларускія справы ў Швейцарыі.

Калі я прыязджаю на Беларусь мяне заўсёды ўражвае становішча з мовай, людзі саромеюцца размаўляць па-беларуску. І зараз ніякіх зменаў я не заўважыла. Чамусьці змянілі назву праспекта Скарыны, але пакінулі вуліцу Валадарскага, Свярдлова, Кнорына. Што гэтыя людзі для нас, нібыта ў нас няма сваіх герояў. Знешняе ўражанне, што ў Менску няма нічога беларускага.



Але З'езд мяне падштурхнуў, з'явіліся надзеі на нейкія пазітыўныя змены. Таму што я бачу, якія ёсць людзі на Беларусі, яны жывуць беларускай справай.

На З'ездзе мы сустрэліся са спадаром Запруднікам з ЗША, з якім знаёмыя ўжо даўно. Сустрэліся з Ігарам Шаховічам з Калінінграда, з'явіліся новыя знаёмствы з амерыканскімі беларусамі, з беларусамі з Чэхіі. І гэта вельмі прыемна.

Што тычыцца самога З'езда, я ўражана добрай арганізацыяй і лічу працу З'езда вельмі канструктыўнай. Дзякую тым, хто працаваў, і ўсяго добрага ўсім сумленнымі беларусам".

## Кохтла-Ярвэ, Эстонія

**Зінаіда Клыга, старшыня Беларуска-Эстонскага Згуртавання:**

"Наша суполка працуе ўжо 17-ты год. Мы ладзім шмат розных мерапрыемстваў. У нашы планы ўваходзіць несці беларускую культуру ў Эстоніі. Нядаўна быў рэалізаваны такі праект – "БЭЗ прыходзіць у госці", калі мы праехаліся па невялікіх гарадах Эстоніі, дзе таксама жыве шмат. Правялі Фестываль беларускага гумару. Прыехалі людзі з іншых беларускіх суполак. Вялізная зала была поўная. Людзі так весяліліся, што памяталі потым вельмі доўга. І ўсё было на беларускай мове. У верасні гэтага года мы ладзім ў Эстоніі Міжнародны фестываль беларускай песні "Родныя напевы". Мы запрасілі ўсе беларускія суполкі Эстоніі, а іх вельмі многа (3 у Таліне, 2 у Нарве, па адной у маленькіх гарадах, зараз з'явіліся яшчэ і новыя).

Але нам не хапае сувязяў з беларусамі ў іншых краінах. Таму тэма З'езда беларусаў свету вельмі слушная. Нам не хапае таго, чаго не хапае ўсім беларускім суполкам у іншых краінах – не хапае зацікаўленасці з боку беларускай дзяржавы. Эстонская дзяржава нас падтрымлівае, але да беларускіх уладаў мы ўжо і не спрабуем звяртацца. Запрашалі колькі разоў людзей з Міністэрства культуры Беларусі, але ў іх заўжды знаходзяцца перашкоды. Таму тое, што З'езд узняў пытанне ўзаемаадносінаў беларускай дзяржавы і дыяспары – вельмі своечасова. На З'ездзе прыняты дакументы, да якіх дзяржава, спадзяемся, пачне прыслухоўвацца.

Першае ўражанне ад З'езда – было так цёпла на душы. Мы сустрэліся са старымі знаёмымі, паразмаўлялі аб агульных справах. Побач са сталымі было вельмі прыемна пабачыць маладых. На З'ездзе мы пазнаёміліся з сібірскімі беларусамі. Мы можам ім дапамагчы беларускімі песнямі, якіх яны ведаюць мала. Яны мала размаўляюць па-беларуску, бо толькі пачынаюць".

Бюлетэнь Інфармацыйнага цэнтра МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі. Падбор матэрыялаў і вёрстка – Зміцер Сасноўскі. Адказная за выпуск – Алена Макоўская.

Адрас рэдакцыі:
вул. Рэвалюцыйная, 15, г. Мінск
220030, Рэспубліка Беларусь
zbsb@lingvo.minsk.by; www.zbsb.org
тэл. (+375 17) 289-31-94

Наклад 200 асобнікаў

МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

№7 (44)
ЛІПЕНЬ 2005

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ДАДАТАК



## Круглы стол

# "Магчымасці захавання каштоўнасцяў нацыянальнай культуры ў шматкультурным грамадстве: досвед Еўрапейскага Саюза і Беларусі"

**14-15 ліпеня 2005 г. у Мінску адбыўся Круглы стол "Магчымасці захавання каштоўнасцяў нацыянальнай культуры ў шматкультурным грамадстве: досвед Еўрапейскага Саюза і Беларусі". У гэтым навукова-прыкладным мерапрыемстве ўзялі ўдзел прадстаўнікі недзяржаўных арганізацый, журналісты, дэпутаты мясцовых Саветаў, а таксама навукоўцы з Германіі, Бельгіі і Чэхіі. Арганізатарамі выступілі МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", Інфармацыйна-аналітычны цэнтр НДА, Аналітычны штотыднёвік "Беларускі рынак". Падчас працы Круглага стала абмяркоўваліся і шукаліся шляхі вырашэння самых разнастайных праблем, звязаных з працэсамі глабалізацыі і выжывання нацыянальных культур у сучасным свеце.**

**Прапануем чытачам падборку матэрыялаў Круглага стала. У наступным нумары тэма будзе працягнута.**

*Уладзімір Роўда,*
*кандыдат філасофскіх навук, выканаўчы дырэктар Інфармацыйна-аналітычнага Цэнтра НДА пры МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Нацыянальная ідэнтычнасць у наднацыянальнай дзяржаве

Нацыя, як пэўны этап у развіцці этнічных супольнасцяў, з'яўляецца прадуктам сучаснага грамадства. На думку вядомага англійскага сацыёлага Эрнста Гелнэра, нацыя ўяўляе сабой адзінства трох асноўных кампанентаў: культурнага, валявога і палітычнага.

У адрозненні ад народнасці, нацыя мае патрэбу ў "высокай" г.зн. стандартызаванай культуры, у першую чаргу, у літаратурнай мове, якая становіцца сродкам камунікацыі людзей у індустрыйным грамадстве. Справа ў тым, што сама дынаміка жыцця, хуткая гарызантальная і вертыкальная мабільнасць магчымыя толькі пры ўмове, што людзі добра разумеюць адзін аднаго, што пануе культурная гамагеннасць. "Высокая культура" распаўсюджваецца і абараняецца з дапамогай сістэмы дзяржаўнай адукацыі. У гэтай сферы назіраецца жорсткая канкурэнтная барацьба. Калі ў адпаведных варунках адна "высокая культура" не ў стане абслугоўваць патрэбы пэўнага індустрыйнага грамадства, гэта за яе робіць іншая, якая імкнецца да экспансіі свайго ўплыву (напрыклад, расійская культура ў сучаснай Беларусі). Звычайна гэта суправаджаецца і палітычнай экспансіяй.

Нацыя – гэта супольнасць, якая ўсведамляе сваё адметнае, асобнае ад іншых існаванне. Нацыя існуе да таго часу, пакуль яе чальцы падзяляюць пачуццё прыналежнасці да пэўнай супольнасці, "галасуюць за нацыянальныя каштоўнасці на штодзённым плебісцыце", кажучы словамі Рэнана. Гэтае "галасаванне" – ёсць воля да прыналежнасці, валявы кампанент нацыі. Ён робіцца магчымым, дзякуючы актыўнай дзейнасці творчай інтэлігенцыі. Пісьменнікі, мастакі, гісторыкі, журналісты адыгрываюць велізарную пазітыўную ролю ў стварэнні "нацыянальнага міфу", у фармаванні і распаўсюджванні нацыянальнай самасвядомасці, пераўтварэнні з яе дапамогай аморфнай этнічнай групы – "народа" ў палітычна актыўную – "нацыю". Воля да прыналежнасці фактычна і ўяўляе сабой нацыянальную ідэнтычнасць.

Існаванне нацыі патрабуе аб'яднання яе культурнага кампанента з палітычным, з барацьбой за стварэнне, умацаванне і развіццё незалежнай нацыянальнай дзяржавы. Нацыі не проста з'яўляюцца сховішчамі ўсяго сакральнага і натуральнага, яны робяцца інструментамі сацыяльнай

> **У адрозненні ад народнасці, нацыя мае патрэбу ў "высокай" г.зн. стандартызаванай культуры, у першую чаргу, у літаратурнай мове. "Высокая культура" распаўсюджваецца і абараняецца з дапамогай сістэмы дзяржаўнай адукацыі.**

мабілізацыі і пераўтварэнняў, ствараюць асноўны палітычны каркас для развіцця сучаснага грамадства ў выглядзе незалежнай дзяржавы. Яно адлюстроўвае волю распаўсюджваць свае межы на ўсіх, хто належыць да адпаведнай культуры, абараняе і навязвае яе ў сваіх межах сілай улады. Аб'яднанне волі, культуры і дзяржавы робіцца нормай, уласцівай для чалавецтва, што жыве ў часы індустрыялізму.

Як жа мяняецца культура, воля да прыналежнасці (ідэнтычнасць), нацыянальная дзяржава ў краінах Еўразвяза пад уплывам іх пераходу да постіндустрыйнага грамадства і ўзмацнення тэндэнцый эканамічнай і культурнай глабалізацыі?

Калі казаць пра культуру, то яна ўсё больш і больш перастае быць гамагеннай. Яшчэ ў гады Другой сусветнай вайны краіны антыгітлераўскай кааліцыі былі вымушаны набраць дзесяткі тысяч этнічна разнастайных салдат і рабочых прымусам альбо добраахвотна. Так быў створаны прэцэдэнт для гастарбайтэрства з незаходніх краін і культур у Заходнюю Еўропу. Маючы больш высокія дэмаграфічныя паказчыкі, гэтыя этнічныя анклавы змаглі назаўсёды прыжыцца на Захадзе.

Глабалізацыя сучаснай эканомікі і абвастрэнне дэмаграфічных праблем у найбольш развітых і багатых краінах Еўропы значна павялічыла прыток працоўнай сілы з былых калоніяў у былыя метраполіі. На нашых вачах фактычна адбываецца новае вялікае перасяленне народаў. Як сведчыць статыстыка ААН, за наступныя 50 гадоў суадносіны паміж працаздольным насельніцтвам і людзьмі сталага веку ў ЕЗ скароціцца ад сучаснага паказчыка 5:1 да 2:1.

Гэта азначае, што калі Еўропа жадае захаваць свой высокі ўзровень сацыяльнага забеспячэння, яна будзе вымушана альбо каласальна падвысіць падаткі, што негатыўна адаб'ецца на стане эканомікі, альбо заахвоціць жанчын нараджаць больш дзяцей, што немагчыма з-за арыентацыі грамадства на дасягненне гендэрнай роўнасці, альбо кожны год прымаць мільёны новых мігрантаў. Як пісала газета "Гардыян", каб захаваць сучасны ўзровень жыцця, краіны Еўразвяза вымушаны будуць на 60% павялічыць прыток імігрантаў, што прывядзе да росту сацыяльнай напружанасці і парушэнню і так даволі кволай расавай раўнавагі ў рэгіёне. Ужо зараз у Германіі пражывае 7 мільёнаў імігрантаў толькі з

мусульманскіх краінаў, у Францыі і Брытаніі іх колькасць складае прыблізна па 5 мільёнаў у кожнай.

Але галоўным чыннікам культурнай фрагментацыі і ЕЗ і ЗША з'яўляецца не столькі міграцыя, колькі адмова некаторых прадстаўнікоў кіруючых эліт гэтых краін ад палітыкі асіміляцыі і пераход да палітыкі спрыяння так званаму мультыкультуралізму. Калі ў 60-я гады ўдзельнікі руху за грамадзянскія правы цемнаскурых амерыканцаў змагаліся за роўныя правы з белымі амерыканцамі, за тое, каб хутчэй інтэгравацца ў супольнасць, зліцца з ёй, то зараз многія афраамерыканцы і пераважная большасць новых мігрантаў з Азіі і Лацінскай Амерыкі змагаюцца за захаванне сваёй культуры і не спяшаюцца зліваццa з астатнім грамадствам.

Палітыка асіміляцыі, якая ў ЗША атрымала назву "плавільнага катла" (melting pot), на думку прыхільнікаў мультыкультуралізму вядзе да культурнага падпарадкавання нацыянальных меншасцяў эксплуататарскай большасці: культуры белых, англа-саксаў, пратэстантаў (WASP). Яшчэ ў 60-я гады вядомы афраамерыканскі палітычны дзеяч Джэсі Джэксан прапанаваў альтэрнатыву стратэгіі "плавільнага катла", якую ён назваў стратэгіяй "коўдры з рознакаляровых кавалачкаў" (patchwork quilt). У адпаведнасці з ёй, Амерыка мусіць стаць шматмоўнай і мультыкультурнай краінай. Канкрэтнымі накірункамі ў рэалізацыі гэтай стратэгіі сталі: білінгвізм у адукацыі, рэформа школьных праграм, друкаванне новых падручнікаў па гісторыі для вучняў і студэнтаў, выдзяленне квот для меншасцяў пры паступленні ва ўніверсітэты і на працу, друкаванне бюлетэняў для галасавання на англійскай і іспанскай мовах у некаторых штатах і г.д.

**Калі ў 60-я гады змагаліся за тое, каб хутчэй інтэгравацца ў супольнасць, зліцца з ёй, то зараз пераважная большасць мігрантаў змагаюцца за захаванне сваёй культуры і не спяшаюцца зліваццa з астатнім грамадствам.**

У Заходняй Еўропе палітыка мультыкультуралізму праяўляецца ў барацьбе за дзяржаўнае фінансаванне рэлігійнай адукацыі для мусульманскай супольнасці, (Вялікабрытанія), ладжанні акцыяў пратэсту супраць забароны нашэння ісламскіх hijab дзяўчынкамі ў дзяржаўных школах у Францыі, ці сікхскіх цюрбанаў у Брытаніі, правядзенні кампаніяў абароны правоў нацыянальных меншасцяў у Еўрапейскім судзе па правах чалавека і г.д.

Трэба адзначыць, што калі ў Злучаных Штатах кіруючыя колы пад уздзеяннем насельніцтва адмовіліся ад некаторых крайніх мераў мультыкультуралізму, то ў Заходняй Еўропе ўсведамленне многімі прадстаўнікамі палітычнай эліты яго небяспекі для нацыянальнай еднасці прыходзіць толькі зараз. Напрыклад, лідэр Хрысціянска-дэмакратычнага звязу Германіі Ангела Меркель у інтэрв'ю "Нью-Йорк Таймс", кажучы пра турэцкіх мігрантаў, адзначыла: "Мы не настойваем на тым, каб яны адмовіліся ад мусульманскай веры. Мы толькі кажам, што Германія – краіна хрысціянская, і туркі павінны гэта разумець". Нямецкая правая апазіцыя рашуча выступае супраць прыёму Турцыі ў Еўразвяз.

Нарэшце, яшчэ адным чыннікам, які спрычыніўся да разбурэння культурнай гамагеннасці ў ЕЗ стала так званая культурная глабалізацыя. Пітэр Бергер праводзіць цікавую паралель паміж эліністычнай стадыяй развіцця антычнага свету і сучаснай стадыяй культурнай экспансіі англа-амерыканскай цывілізацыі.

Як і раней, так і зараз, мова адыгрывае галоўную ролю ў распаўсюджванні культуры. Асноўнай мовай эпохі элінізму быў "койне" – найбольш распаўсюджаны сярод простых людзей дыялект грэцкай мовы, на якім, што зусім не выпадкова, быў напісаны Новы Запавет. Сёння англійская мова, хутчэй у яе амерыканскім, чым у чыста англійскім варыянце, становіцца мовай "койне" глабальнай цывілізацыі. Іншымі праявамі культурнай глабалізацыі з'яўляецца фармаванне міжнароднай культуры дзелавых і палітычных колаў, клубная культура інтэлектуалаў, ідэалогія здаровага ладу жыцця і інш.

На ўзроўні масавай свядомасці ролю глабальнай культуры выконвае стандартызаваная культура спажывання. Яе формы мала чым адрозніваюцца ў розных кутках планеты. Безумоўна, яна з'яўляецца вельмі павярхоўнай. Але, на думку Бергера, не варта перабольшваць яе ўплыў. У прынцыпе, індывід можа насіць джынсы і спартовы абутак, спажываць гамбургеры, нават глядзець мультфільмы Дыснея, але пры гэтым заставацца ў межах той альбо іншай традыцыйнай культуры.

Тым не менш глабальная масавая культура стымулюе так званы культурны супраціў у сучасным свеце і асабліва ў Еўропе. Напрыклад, у Францыі набірае абароты "рух у абарону французскай цывілізацыі супраць амерыканскага варварства".

У краінах ЕЗ субнацыянальная ідэнтычнасць скіравана не толькі на прадстаўнікоў нееўрапейскіх этнічных і расавых меншасцяў, але і на малыя народы, ці на "малыя батальёны ў войску нацыяналізму", як называе іх Нейрн. Ён мае на ўвазе жыхароў Шатландыі і Валіі, Краіны Баскаў і Каталоніі, Корсікі, Ламбардыі і інш. Справа ў тым, што менавіта сучасныя сродкі камунікацыі робяць іх дзейнасць больш эфектыўнай, чым раней. Глабалізацыя на самой справе выклікае і стымулюе павелічэнне колькасці самастойных суб'ектаў, якія канкуруюць паміж сабой. Але ідэалу "меншае – ёсць лепшае" ўвесь час супрацьдзейнічаюць імперскія дзяржавы і дзяржавы-нацыі, якія першымі дасягнулі поспеху ў барацьбе за незалежнасць у XVIII – першай палове XX ст. Так што, згодна з Нейрнам, развіццё сучаснай эканомікі і інфармацыйных тэхналогій можа з цягам часу прывесці да распаду вялікіх краін і росквіту "анархічнага інтэрнацыяналу" малых дэмакратычных нацый.

**На ўзроўні масавай свядомасці ролю глабальнай культуры выконвае стандартызаваная культура спажывання. Яе формы мала чым адрозніваюцца ў розных кутках планеты.**

Хантыгтан прыводзіць адзін цікавы прыклад. У 1996 г. Ральф Нэйдэр – вядомы амерыканскі кансерватар – звярнуўся з адкрытым лістом да кіраўніцтва сотні буйнейшых нацыянальных карпарацый, прапанаваўшы ім раз на год адчыняць сходы акцыянераў амерыканскім гімнам і клятвай вернасці амерыканскаму сцягу. Пазітыўна адгукнулася на гэты заклік толькі адна кампанія... Нэйдэра паднялі на смех, а прадстаўнік знакамітага "Форд мотарз" напісаў: "Паколькі наша кампанія – шматнацыянальная... "Форд" у пэўным сэнсе з'яўляецца аўстралійскай фірмай у Аўстраліі, англійскай фірмай у Злучаным Каралеўстве, нямецкай фірмай у Германіі і г.д."

У якасці яскравага прыкладу транснацыянальнай ідэнтычнасці часта прыводзіцца еўрапейская ідэнтычнасць у краінах ЕЗ, але яе фармаванне ідзе няпроста. Выдатны англійскі даследчык нацый і нацыяналізму Энтані Сміт лічыць, што еўрапейская ідэнтычнасць стала сапраўдным "культурным полем бітвы". Па-першае, аб'яднаная Еўропа мае яшчэ вельмі кароткую гісторыю за плячыма, каб можна было казаць пра гэтую з'яву ўсур'ез. Па-другое, старыя нацыі, як адзначаў французскі сацыёлаг Рэймон Арон, будуць жыць у сэрцах людзей, а любові да еўрапейскай нацыі да гэтай пары не адчуваецца. Па-трэцяе, адсутнічае адзінадумства наконт таго, што такое ЕЗ – Еўропа нацыяў, ці адзіная айчына. Па-чацвёртае, інжынерам новай Еўропы прыйдзецца прыкласці вялікія намаганні для таго, каб

➲

ствараць міф аб адзіным паходжанні, перапісаць гісторыю, вынайсці традыцыі, стварыць сімвалы, якія і народзяць еўрапейскую ідэнтычнасць у будучым.

"Гэта азначае, – як слушна заўважае Сміт, – што прыйдзецца стварыць пэўную форму нацыяналізму... У той жа час новая еўрапейская культурная ідэнтычнасць вымушана будзе супернічаць з надзвычай устойлівымі нацыянальнымі ідэнтычнасцямі і паглынуць іх".

Мы ўжо казалі пра крызіс нацыянальнай дзяржавы і прыводзілі прагнозы яе хуткага адыходу ў нябыт пад уздзеяннем глабалізацыі і развіцця постмадэрнісцкіх каштоўнасцяў. На маю думку, аднак, якраз нацыянальная дзяржава дэманструе найбольшую трываласць, праўда, змяняючы формы свайго існавання. Справа ў тым, што, па вялікім рахунку, нацыянальную дзяржаву пакуль што няма чым замяніць, яна захоўвае сваю функцыянальнасць. Гэта фактычна быў вымушаны прызнаць і адзін з найбольш актыўных яе крытыкаў – нямецкі філосаф Юрген Хабэрмас.

Палітычнай мабілізацыі насельніцтва пры дэмакратычным кіраванні патрэбна ідэя, якая магла б куды мацней закрануць сэрцы людзей, чым абстрактныя ўяўленні аб правах чалавека і народным суверэнітэце. "Гэтая пустота і была запоўнена ідэяй сучаснай нацыі, – падкрэслівае Хабермас, – якая ўпершыню ўдыхнула ў жыхароў агульнай тэрыторыі дух прыналежнасці да адной рэспублікі".

Цяжка пагадзіцца з тым, што нацыянальную ідэю ў сучасным свеце можа замяніць так званы "канстытуцыйны патрыятызм". Яму яўна будзе не хапаць легітымізуючай і мабілізуючай моцы нацыяналізму, асабліва ў перыяды крызісаў.

Немагчыма пагадзіцца таксама і з аргументамі многіх заходніх палітолагаў, якія бачаць ў сучасным Еўразвязе альтэрнатыву нацыянальным дзяржавам. Майкл Ман абсалютна справядліва, на маю думку, назваў ЕЗ "гігантам у эканоміцы, карлікам у палітыцы і маленькім

**Палітычнай мабілізацыі насельніцтва пры дэмакратычным кіраванні патрэбна ідэя, якая магла б куды мацней закрануць сэрцы людзей, чым абстрактныя ўяўленні аб правах чалавека і народным суверэнітэце.**

чарвяком у ваенных пытаннях". Гэта азначае, што менавіта дзеля супольных выгод краіны ЕЗ саступілі частку свайго суверэнітэту ў прававой і эканамічнай сферы. Напрыклад, пасля падпісання Маастрыхцкага пагаднення пачаўся працэс прывядзення законаў краін Еўразвяза да агульных стандартаў.

Аднак, калі казаць пра Еўрапарламент і Еўрапейскую камісію, яны ўсе яшчэ саступаюць нацыянальным органам улады. Непасрэдны ўплыў ЕЗ на штодзённае палітычнае жыццё ў краінах-сябрах застаецца вельмі абмежаваным. Таму выбары ў еўрапейскія органы не карыстаюцца вялікай падтрымкай насельніцтва. Удзел у іх істотна саступае паказчыкам выбараў у нацыянальныя парламенты. Часцяком нават рэферэндумы па агульнаеўрапейскіх пытаннях пераўтвараюцца ў вотумы даверу нацыянальным урадам і іх лідэрам.

**Не заняпад нацыяналізму і вяртанне да поліэтнічнай іерархіі даіндустрыйнай эпохі чакае чалавецтва ў XXI ст., а развіццё нацыяналізму ў новых абліччах і формах. Нацыяналізм застаецца найбольш магутнай і ўплывовай сілай у свеце.**

На думку Мана, у ЕЗ амаль адсутнічае функцыя калектыўнай бяспекі і вельмі слабай з'яўляецца функцыя каардынацыі знешняй палітыкі, аб чым сведчыць няздольнасць Еўропы дзейнічаць эфектыўна без падтрымкі Злучаных Штатаў падчас канфлікту ў былой Югаславіі і поўны разнабой у вызначэнні агульнай стратэгіі падчас апошняй вайны ў Іраку.

Усё гэта сведчыць аб тым, што еўрапейскія нацыі-дзяржавы не паміраюць і не спяшаюцца на пакой: у іх проста змяніліся функцыі, якія яшчэ могуць не адзін раз змяніцца ў будучым. Калі казаць пра іншыя развітыя дзяржавы свету, то ні ЗША, ні Японія пакуль не збіраюцца ісці па еўрапейскаму шляху, аддаючы свой суверэнітэт наднацыянальным структурам, так што аб'яднаная Еўропа – гэта хутчэй выключэнне з правілаў, чым правіла для постіндустрыйнага свету.

Такім чынам, не заняпад нацыяналізму і вяртанне да поліэтнічнай іерархіі даіндустрыйнай эпохі, пра якую піша Мак Нейл, чакае чалавецтва ў XXI ст., а развіццё нацыяналізму ў новых абліччах і формах. Нацыяналізм, як і раней, застаецца найбольш магутнай і ўплывовай сілай у свеце, і ён далёка яшчэ не вычарпаў свой патэнцыял.

*Аляксандр Класкоўскі,*
*кіраўнік аналітычнай службы Інфармацыйнай кампаніі БелаПАН*

# Досвед гарманізацыі інтарэсаў моўных супольнасцяў у краінах Еўразвяза на прыкладзе Каралеўства Бельгія

Увогуле ў беларусаў з бельгійцамі шмат агульнага. Нават праблема этнічнай самаідэнтыфікацыі, ці, прасцей кажучы, – разумення, што мы за народ і ў чым палягае нашая адметнасць.

Там нават дасюль ідуць спрэчкі, ці ёсць такая нацыя – бельгійцы. Маўляў, стварылі некалі штучную дзяржаву між Францыяй ды Нідэрландамі! Ва ўсякім разе, насельніцтва краю, які стагоддзямі належаў розным магутным суседзям, і па сёння выразна падзеленае на дзве часткі – франкамоўных валонаў ды фламандцаў, якія гавораць па-галандску. Гэта замацавана і афіцыйным дзяржаўным двухмоўем.

Але тут падабенства з беларускай сітуацыяй і заканчваецца. Бо там двухмоўе не імітацыйнае, а сапраўднае. І кароль з падкрэсленым парытэтам прамаўляе як па-французску, так і па-фламандску. Бясспрэчная каштоўная высновa з бельгійскага досведу – гэта тое, што моўныя праблемы нельга вырашаць наскокам, а тым болей гвалтам. Толькі праз кампрамісы і паэтапна.

За час незалежнага існавання Бельгіі (з 1830 г.) там не аднойчы ўзнікалі вострыя крызы стасункаў між дзвюма асноўнымі этнічнымі супольнасцямі – валонамі ды фламандцамі. З кожнай крызы лагеры выкарасквaліся праз кампраміс. Дзеля гэтага некалькі разоў перараблялася канстытуцыя. У выніку дзяржава з унітарнай ператварылася ў федэратыўную. Прычым гэта – двайная федэрацыя з трыма ўзроўнямі ўлады.

Па-першае, ёсць экстэрытарыяльныя моўныя супольнасці (франкамоўная, галандскамоўная ды нямецкамоўная). А па-другое, існуюць тэрытарыяльныя рэгіёны (Валонія, Фландрыя і Брусель-сталіца). Адметна, што іхнія межы не зусім супадаюць. Напрыклад, Брусель знаходзіцца на фламандскай тэрыторыі, аднак блізу 85 адсоткаў ягоных жыхароў – франкамоўныя. А нямецкамоўны лапік цалкам месціцца на тэрыторыі Валоніі.

Адпаведна Бельгія вызначаецца асабліва складанай сістэмай дзяржаўнага кіравання. У ёй тры паверхі: самы высокі –

рэгіёны і моўныя супольнасці, сярэдні – правінцыі (10), найніжэйшы – муніцыпалітэты, або камуны (598). Прычым на ўсіх паверхах забяспечаны высокі ўзровень аўтаноміі. І гэтую аўтаномію цвёрда бароніць заканадаўства. Там ніводны вялікі начальнік не здолее, напрыклад, шыхтаваць мясцовае кіраўніцтва. Іначай кажучы, у Бельгіі вельмі развітае самакіраванне. Шмат якія пытанні, уключна з моўнымі, вырашаюцца там менавіта на лакальным узроўні. Гэта зроблена дзеля таго, каб улічыць і дэталізаваць запыты ўсіх этнічных ды сацыяльных групаў.

**У Бельгіі аднойчы быў цэлы бунт, калі нейкі мэр адмовіўся вывучаць фламандскую мову. Ды што мэр! Кожны паліцыянт абавязаны патлумачыць мінаку менавіта на той з дзвюх моваў, на якой той звярнуўся.**

Розныя суб'екты бельгійскай федэрацыі маюць свае адмысловыя заканадаўчыя ды выканаўчыя органы. Як зазначыла палітолаг Лёвенскага ўніверсітэта Ірына Зброжак, "Бельгія проста фенаменальная краіна па колькасці ўрадаў". Сапраўды, напрыклад, нямецкамоўная супольнасць, складаючы толькі блізу 3% насельніцтва, таксама мае сваю Раду і свой урад.

І вось гэтым парламентам ды ўрадам канстытуцыя дэлегуе шырокія паўнамоцтвы. Яны тычацца, у прыватнасці, сфераў мовы, культуры, адукацыі, шырокага кола сацыяльных пытанняў, аховы здароўя, спорту, моладзевых праблемаў, турызму, медыяў. У межах сваёй кампетэнцыі лінгвістычныя супольнасці могуць нават заключаць дамовы з замежнымі краінамі.

Лёвенскі ўніверсітэт падзелены паводле мовы навучання на два аўтаномныя, тое ж з дзяржаўным універсітэтам у Бруселі. У краіне выдаецца 35 штодзённых газет, з іх 19 на французскай, 15 на фламандскай і 1 на нямецкай мове. Адпаведна і тэлерадыёвяшчанне вядзецца на трох мовах.

Цікава і тое, як фармуецца федэральны ўрад. Рада міністраў не павінна перавышаць 15 асобаў. За выняткам прэм'ера, у ёй мусяць быць пароўну прадстаўлены фламандцы і франкафоны. Пэўныя прапорцыі (трохі болей складаныя) прадугледжаны і для абедзвюх палатаў парламента. Бо ўвогуле фламандцаў у краіне трохі болей, чым валонаў.

Тут варта сказаць і пра такі спецыфічны момант. Да пачатку XX ст. ва ўсіх сферах – палітыцы, эканоміцы, культуры – дамінавала Валонія. За ёй стаяла вялікая Францыя. На фламандцаў валоны пазіралі трохі звысоку – маўляў, "мужыцкая нацыя". Але потым фламандцы сталі браць рэванш. Найперш рэгіён ірвануў у эканамічным развіцці. У той самы час шахты ды іншыя гіганты валонскай індустрыі сталі прыходзіць у заняпад.

І дасюль ідзе гэты контрнаступ. Іншым разам з боку часткі фламандцаў ён набывае нават радыкальна-нацыяналістычныя формы. Крызы перыядычна абвастраюцца. І тады песімісты нават пачынаюць прарочыць Бельгіі распад на дзве дзяржавы.

Адрозна ад Беларусі, Бельгія напоўніцу выкарыстоўвае сваё выгаднае геаграфічнае становішча. Транзіт дае шалёныя прыбыткі. Паводле гушчыні чыгунак ды аўтадарог Бельгія займае першае месца ў свеце. Адзін амерыканскі астранаўт, пралятаючы над начной Еўропай, раптам крыкнуў у мікрафон: "Бачу Бельгію!" Унізе было густое павуцінне асветленых аўтадарог. Такога ўнікальнага малюнка болей на свеце няма.

Да таго ж Брусель – гэта сталіца Еўразвяза. Працуе і ўзводзіцца процьма офісаў, турыстаў штогод болей за 10 мільёнаў. Гатэлі, самалёты, цягнікі – усё гэта таксама прыносіць жывыя грошы. Таму бельгійцы не хочуць разбураць дабрабыт праз узрушэнні на моўна-этнічнай глебе. Яны гатовыя ўтрымліваць шэсць парламентаў ды шэсць урадаў, уключна з федэральнымі, хоць, натуральна, 10-мільённай краіне гэта абыходзіцца нятанна.

**Менавіта на зрусіфікаванасці вялікай часткі беларусаў спекулююць тыя, хто дасюль не пакідае планаў інкарпарацыі нашай дзяржавы. Так што задача ліквідацыі моўнага дысбалансу – гэта ў немалой ступені і задача захавання нашай незалежнасці.**

Беларусь жыве небагата. З іншага боку, у нас няма такога супярэчлівага рэгіянальна-моўнага перапляцення. Так што нам і не патрэбная такая складаная сістэма балансаў у моўна-культурнай сферы. Бадай, найважней ліквідаваць адзін добра ўсім вядомы дысбаланс. Маю на ўвазе панаванне расейшчыны ў нашым моўна-культурным асяроддзі. Кажучы словамі Аляксандра Лукашэнкі – "дикий крен в сторону России".

Так, у нас афіцыйна існуе дзяржаўнае дзвюхмоўе. Але ж хто не ведае, наколькі яно, мякка кажучы, фармальнае! Між іншым, бельгійцы шануюць свайго караля Альберта Другога менавіта як жывую ілюстрацыю білінгвізму. І нават кажуць, што Бельгія будзе жыць, пакуль існуе каралеўскі дом.

У нас жа, як вядома, высокае кіраўніцтва рускамоўнае. А на яго глядзіць уся вертыкаль. Хоць акцэнт усё адно выдае, якая мова была матчынай. Дарэчы, у Бруселі адзін суразмоўца сказаў: "Бельгія – гэта краіна, дзе ўсе гавораць з акцэнтам". Сапраўды, у валонаў не той французскі, як у парыжанаў, у большасці франкафонаў фламандская мова зусім ламаная.

Дарэчы, памятаеце, як, заняўшы пасаду спікера, пакрысе перайшоў на беларускую мову Мечыслаў Грыб? Дый іншыя дэпутаты, чыноўнікі хаця б перад тэлекамерамі стараліся прамаўляць выраз-другі па-беларуску. У першай палове 90-х гэта было модна. Так што многае, натуральна, залежыць ад тых, хто вызначае дзяржаўную палітыку.

Між іншым, досвед Бельгіі каштоўны і тым, што там нацыянальныя рухі перайшлі ў цывілізаваную палітычную плашчыню. Адпаведныя праблемы дыскутуюцца на міжпартыйных кансультацыях, фіксуюцца ў пагадненнях.

У Бельгіі аднойчы быў цэлы бунт, калі нейкі мэр адмовіўся вывучаць фламандскую мову. Ды што там мэр! Кожны паліцыянт абавязаны патлумачыць мінаку шлях менавіта на той з дзвюх моваў, на якой той звярнуўся.

Вядома ж, у нас афіцыйная прапаганда раздзьмула міф пра дзікі разгул нацыяналістаў на пачатку 90-х. Аднак элементы наскоку былі, і яны адпудзілі частку насельніцтва ад беларусізацыі. Трэба стаяць у моўным пытанні на рэальнай глебе.

У Беларусі моўнае размежаванне, адрозна ад Бельгіі, мае не тэрытарыяльны, а хутчэй палітычна-ментальны характар. Ёсць зрусіфікаваная маса насельніцтва, і ёсць свядомыя адэпты беларушчыны. Натуральна, увогуле малюнак болей складаны. Але ёсць факт таго, што менавіта на зрусіфікаванасці вялікай часткі беларусаў спекулююць тыя, хто дасюль не пакідае планаў інкарпарацыі нашай дзяржавы. Так што задача ліквідацыі моўнага дысбалансу – гэта ў немалой ступені і задача захавання нашай незалежнасці.

Беларусь, як і Бельгію, гісторыя доўга церла ў сваіх жорнах. Абедзве краіны шмат стагоддзяў былі арэнай суперніцтва між вялікімі дзяржавамі кантынента. Траплялі то пад адну карону, то пад іншую. Бельгійцы ў выніку навучыліся шанаваць сваю самабытнасць. Заўважце: уключна з моўным выбарам іншай часткі суайчыннікаў. Навучыліся дасягаць паразумення ў моўна-культурнай сферы паступова і праз кампрамісы. І адпаведным чынам будаваць усё грамадска-палітычнае жыццё ды сістэму ўлады.

Вось гэта і ёсць іх найкаштоўнейшым досведам.

*Рыта Гаціх,*
*гісторык, сябра Беларускай суполкі "Скарына" ў Празе*

# Суіснаванне нацыянальных меншасцей ў Чэшскай Рэспубліцы: дзяржаўная палітыка і рэальнасць

Хаця тэрмін "нацыянальная меншасць" вельмі часта скарыстоўваецца не толькі ў навуковай літаратуры і ва ўсемагчымых навукова-папулярных публікацыях, але і ў шматлікіх міжнародных дакументах, не існуе яго агульнапрызнаная дэфініцыя. У межах дадзенай працы будзем карыстацца наступнай дэфініцыяй: "нацыянальныя меншасці – гэта групы насельніцтва пэўнай нацыянальнасці, якія расселены ў іншанацыянальным асяроддзі па-за межамі ўласных дзяржаўных утварэнняў і пэўным чынам інтэгруюцца з мясцовым насельніцтвам".

Дэфініцыя, якую прапануюць чэш-скія ўлады, а таксама сацыёлагі і палітолагі, мае яшчэ адну, значную ўмову: чэшскае грамадзянства. Такім чынам, нацыянальная меншасць – гэта групы насельніцтва пэўнай нацыянальнасці, якія пражываюць у іншанацыянальным асяроддзі, пэўным чынам інтэгруюцца з мясцовым насельніцтвам, большасць прадстаўнікоў якой маюць чэшскае грамадзянства. Таму мы не будзем закранаць праблему грамадзянства, каб мы маглі гаварыць і пра беларусаў, якія, адпаведна з чэшскім заканадаўствам, меншасцю не з'яўляюцца.

На тэрыторыі ЧР знаходзяцца афіцыйна прызнаныя наступныя нацыянальныя меншасці: славакі, украінцы, в'етнамцы, рускія, амерыканцы, армяне і кітайцы. Разгледзім толькі некаторыя з іх, а таксама спынім сваю ўвагу на беларусах.

Колькасць замежнікаў з дазволам на сталае жыхарства альбо тых хто мае візу тэрмінам больш чым на 90 дзён на тэрыторыі Чэшскай Рэспублікі (далей ЧР) на дадзены момант складае каля 230 000, што адпавядае прыкладна 2,3% насельніцтва. У параўнанні з дзяржавамі, якія ўваходзяць у склад Еўрапейскага Звяза (далей ЕЗ) працяглы час, гэта мала. Напрыклад, у Нямеччыне эмігранты складаюць 8% ад агульнай колькасці насельніцтва, а ў Швецыі – 20%.

Па неафіцыйных звестках, колькасць замежнікаў павялічыцца амаль у два, разы калі да афіцыйнай колькасці эмігрантаў дадамо тых, хто жыве на тэрыторыі ЧР нелегальна. Чэшская Рэспубліка прываблівае замежнікаў дзякуючы свайму даволі высокаму ўзроўню жыцця і тым, што ўваходзіць у склад ЕЗ. Самай частай прычынай знаходжання ў ЧР з'яўляецца міграцыя дзеля працы. Калі мігранты з краінаў усходняга блоку, не гледзячы на адукацыю і прафесію, выконваюць большасць нізка аплачваемую, мануальную працу, мігранты з краінаў ЕЗ альбо ЗША працуюць на добра аплачваемых, часта кіруючых пасадах.

Найбольшую, па колькасці, групу замежнікаў складаюць славакі, потым украінцы, в'етнамцы, палякі, рускія і немцы.

Рэгіянальны аспект эміграцыі ў ЧР залежыць ад мэты (эканамічная, уз'яднанне сям'і і г.д.), нацыянальнасці, магчымасцяў працаўладкавання альбо наяўнасці этнічнай меншасці ў рэгіёне. Найбольш прывабнымі рэгіёнамі з'яўляюцца Прага і іншыя вялікія гарады (Брно, Плзень, Астрава), якія прадастаўляюць вялікую колькасць працоўных месцаў, магчымасці займацца прадпрымальніцтвам, а таксама пэўную ананімнасць. У Прагу прыязджаюць кітайцы, амерыканцы, рускія, украінцы, тады як немцы, палякі і славакі маюць тэндэнцыю сяліцца ў памежных рэгіёнах, што дазваляе падтрымліваць шчыльныя стасункі з краінай паходжання. Часта ў такіх рэгіёнах ёсць магчымасць працаваць у міжнародных фірмах. Асаблівай групай з'яўляюцца в'етнамцы, якія таксама селяцца ў памежных рэгіёнах.

> **Вылучаецца тры тыпы інтэграцыйных праграмаў: французскі асімілюючы, нямецкі дыскрымінуючы і англасаксонскі мультыкультурны. Зараз у ЕЗ назіраецца пераход да абмежаванага тыпу мультыкультурнай інтэграцыі.**

**Палітыка ўладаў адносна інтэграцыі замежнікаў.** Пад працэсам інтэграцыі разумеем паступовае далучэнне эмігрантаў да ўжо існуючых сацыяльных, палітычных, культурных, прававых і іншых структураў грамадства.

Вылучаецца тры тыпы інтэграцыйных праграмаў: французскі асімілюючы (эмігрант мусіць пераняць каштоўнасці грамадства, у якім апынуўся), нямецкі дыскрымінуючы (эмігранты ізаляваныя ад астатніх грамадзянаў) і англасаксонскі мультыкультурны (эмігранты працуюць у грамадстве, але захоўваюць сваю ідэнтычнасць). Зараз у рамках ЕЗ можам назіраць пераход да абмежаванага тыпу мультыкультурнай інтэграцыі.

Да другой паловы 90-х гадоў XX ст. інтэграцыйная палітыка чэшскіх уладаў, каардынаваная Міністэрствам унутраных спраў, была значна абмежаванай. Акрамя праграмаў, скіраваных на інтэграцыю цыганаў, якія прыйшлі ў ЧР са Славаччыны, існавалі праграмы, скіраваныя на тры спецыфічныя групы замежнікаў: уцекачоў, чэшскую дыяспару, якая месцілася на тэрыторыі Расіі і некаторых рэспублік былога Савецкага Саюза, а пазней з Босніі і Герцагавіны, і людзей з трывала пашкоджаным здароўем (інвалідаў) з Босніі і Герцагавіны. Чэшскае грамадства не мела аніякага досведу кантакту з замежнікамі.

Значныя змены ў сферы інтэграцыйнай палітыкі адбыліся напрыканцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Паступова ўладамі ЧР былі прынятыя тры ключавыя дакументы, якія сталі асновай доўгачасовай інтэграцыйнай палітыкі:

1. Асноўная канцэпцыя інтэграцыі замежнікаў на тэрыторыі ЧР (1999).
2. Канцэпцыі інтэграцыі замежнікаў на тэрыторыі ЧР (2000, потым штогадова актуалізуецца).
3. Накірункі урадавай палітыкі ў сферы інтэграцыі замежнікаў (2003).

У Асноўнай канцэпцыі інтэграцыі ўрад абвяшчае інтэграцыйныя камуніты за "інтэгруючыя" і "ўзбагачаючыя" часткі чэшскага грамадства, а інтэграцыю замежнікаў за "натуральны вынік" эміграцыі. За мэту гэтай праграмы было прынята стварэнне такіх умоваў у чэшскім грамадстве, якія будуць садзейнічаць "ліквідацыі дыскрымінацыі замежнікаў і стварэнню магчымасцей для выкарыстання ўсіх каштоўнасцей, дасягальных насельніцтву ЧР". У гэтым дакуменце ўрад таксама прызнае вядучую ролю грамадскіх недзяржаўных арганізацый у працэсе інтэграцыі замежнікаў.

У штогадова актуалізаванай Канцэпцыі інтэграцыі замежнікаў урад канкрэтызуе сваю інтэграцыйную палітыку. Як мэтавая група інтэграцыйнай праграмы дыфенуюцца "замежнікі, якія легальна пражываюць на тэрыторыі ЧР не менш аднаго года". Канцэпцыя інтэграцыі мае на мэце фармуляваць правы эмігрантаў.

Асноўныя накірункі палітыкі чэшскага ўраду ў сферы інтэграцыі замежнікаў набліжае эміграцыйную палітыку Чэшскай Рэспублікі да стандартаў ЕЗ. Каардынацыя інтэграцыйнай палітыкі ў 2004 г. перайшла з Міністэрства ўнутраных спраў на Міністэрства працы і сацыяльных спраў. Гэтая змена сведчыць пра змену поглядаў ураду на інтэграцыю замежнікаў. Да другой паловы 90-х гг. эміграцыя замежнікаў у ЧР разглядалася як штосьці патэнцыйна небяспечнае. Напрыканцы 90-х гг. улады пачалі разглядаць эміграцыю як з'яву, якая не толькі абсалютна "нармальная", але і карысная для грамадства. Паступова інтэграцыя становіцца натуральнай рэакцыяй на той факт, што на тэрыторыі ЧР знаходзіцца вялікая група эмігрантаў.

Пэўныя ўяўленні аб будучым чэшскай інтэграцыйнай палітыкі дае План інтэграцыйнай палітыкі Міністэрства працы і сацыяльных спраў ЧР на 2004-2006 гг. Гэты план абапіраецца на асновы чэшскай інтэграцыйнай палітыкі, вынікаючай з міжнародных абавязкаў, а асабліва з ➲

acquis communautuaire (зводам нормаў права, неабходных для выканання пры ўступленні ў Еўразвяз). Значная ўвага таксама надаецца падрыхтоўцы супрацоўнікаў Міністэрства працы і сацыяльных спраў для працы з эмігрантамі. Плануецца стварэнне адукацыйных праграмаў для замежнікаў. План таксама канкрэтызуе ўмовы сумеснай працы з органамі мясцовага самакіравання і недзяржаўнымі арганізацыямі пры здзяйсненні інтэграцыйнай палітыкі.

**Замежнікі ў навучальных установах.** У 2003-2004 навучальным годзе ў чэшскіх навучальных установах навучалася 29079 замежнікаў. У 2001-2002 навучальным годзе чэшская школьная інспекцыя праводзіла маніторынг замежнікаў, якія навучаюцца ў чэшскіх навучальных установах. Было даследавана 1012 базавых, сярэдніх і сярэдне-спецыяльных школаў. Найбольшая колькасць замежных навучэнцаў (47%) была зафіксавана ў Празе, найменшая (0,5%) у рэгіёне Высачына, у астатніх рэгіёнах іх колькасць складала ад 2% да 7%. Найменш вучняў-замежнікаў было ў 8 і 9 класах базавых школаў.

Выбар навучальных установаў замежнікамі адрозніваецца ад падобнага выбару чэхаў. У вышэйшых навучальных установах атрымліваюць адукацыю 41% усіх замежных навучэнцаў (сярод чэхаў – 11%), у базавых школах – 37% (сярод чэхаў 49%), у сярэдніх – 11% (сярод чэхаў 27%). Вялікая колькасць замежнікаў у ВНУ з'яўляецца вынікам таго, што вышэйшая адукацыя ў ЧР бясплатная (пры ўмове дастатковага валодання чэшскай мовай). Нізкая колькасць замежнікаў у сярэдніх навучальных установах тлумачыцца тым, што большасць эмігрантаў маладыя, і іх дзеці наведваюць базавыя школы.

**Нацыянальныя меншасці ў ЧР.** Зараз мы жывем у мультыкультурным грамадстве, якое складаецца з людзей з вельмі адрозным сацыяльна-культурным статусам, каштоўнасці якіх могуць не ўспрымацца т.зв. большасцю як універсальныя і бездакорныя. Але жыццё ў такім грамадстве не азначае, што ўсе аўтаматычна добра арыентуюцца і мірна суіснуюць у такім грамадстве. Прадстаўнікі меншасцяў у такім грамадстве сутыкаюцца з праблемамі расізму, ксенафобіі і нецалеранцыі. Шмат у чым гэта праблема не толькі канкрэтнага грамадства, але і канкрэтнай меншасці.

З 2004 г. славакі могуць легальна знаходзіцца на тэрыторыі ЧР на аснове т.зв. спецыяльнага дазволу на пражыванне, якое выдаецца грамадзянам ЕЗ і членам іх сем'яў.

Міграцыя ўкраінцаў у ЧР звязана са складаным станам украінскай эканомікі і вельмі нізкім узроўнем жыцця мясцовага насельніцтва. Паколькі выхад эканамічнага крызісу – працэс доўгачасовы, можна меркаваць, што актыўнасць украінцаў на чэшскім рынку працы захаваецца на працяглы час.

Сярод украінскіх рабочых пераважаюць маладыя жанатыя мужчыны, які маюць на Украіне сем'і з дзецьмі. Сучасныя ўкраінскія эмігранты амаль не імкнуцца ствараць свае арганізацыі. Зусім іншая сітуацыя з другой і трэцяй генерацыяй украінскіх эмігрантаў, якія выдаюць свае часопісы і ладзяць культурныя мерапрыемствы.

Амерыканцы пачалі з'яўляцца ў ЧР на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Па звестках на сакавік гэтага года іх налічваецца 3309. Большасць з іх жыве ў Празе ці ў Брне. У першую чаргу ў Чэхію ехалі настаўнікі англійскай мовы, ці людзі, якія зарабляюць на жыццё мастацтвам. Іх вабіла Прага як культурная метраполія. На працягу 1990-х гг. у Чэхію скіроўваліся дробныя прадпрымальнікі, уладальнікі рэстарацый і так званыя "паляўнічыя на мазгі", якія ў Чэхіі падбіралі менеджэраў і супрацоўнікаў для транснацыянальных кампаній.

Галоўнай прычынай хуткага росту колькасці кітайскіх перасяленцаў была адмена візаў з боку Венгрыі ў 1988 г., што спрыяла іх пранікненню і ў далейшыя еўрапейскія краіны. Кітайскія эмігранты ў ЧР паходзяць з усіх рэгіёнаў Кітая. Пераважаюць прадстаўнікі вялікіх гарадоў, такіх як Пекін і Шанхай, а таксама сяляне з правінцый Чы-цьянг і Фу-цьен. Эміграцыя ў гэтых рэгіёнах мае доўгачасовую традыцыю і адыгравае значную ролю ў сучасным грамадстве. Большасць кітайцаў, якія прыязджаюць у ЧР, маюць сярэднюю альбо вышэйшую адукацыю.

**Замежнікі належаць да розных тыпаў культуры і не імкнуцца да інтэграцыі ў чэшскае грамадства. Нізкі ўзровень інтэграцыі замежнікаў вядзе да ўзнікнення паралельнага грамадства.**

**Беларусы.** Ад пачатку 1990-х гг. сфармавалася ў ЧР беларуская эміграцыя. Яна не такая шматлікая, як украінская ці, напрыклад, славацкая, якая налічвае каля 5000 чалавек. Асаблівасць беларускай меншасці ў тым, што сярод яе прадстаўнікоў даволі значная колькасць палітычных уцекачоў. Нават калі ў ЧР прыязджаюць прадпрымальнікі, якія на змаглі вытрымаць націску беларускіх уладаў, прычыну іх эміграцыі можна разглядаць як палітычную.

Новая хваля беларускіх эмігрантаў з'явілася ў Празе ў 1995 г. Гэта былі супрацоўнікі Радыё "Свабодная Еўропа". Ужо ў 1997 г. у Чэхіі з'явіліся і першыя палітычныя ўцекачы з Беларусі. Зараз налічваецца каля 130 чалавек, якія атрымалі прытулак, і каля 100 чалавек чакаючых статус уцекача. Апошнім часам беларусы належаць да нацый, якія атрымліваюць палітычны прытулак у ЧР часцей за ўсё.

Ёсць у Чэшскай Рэспубліцы і даволі шмат беларускіх студэнтаў. У 2000 г. была зацверджана дзяржаўная стыпендыйная праграма для студэнтаў з Беларусі, якія па палітычных прычынах не могуць распачаць ці працягнуць адукацыю на радзіме.

Міністэрствам юстыцыі ЧР зарэгістравана 3 беларускія грамадскія арганізацыі: Беларускі форум "Адраджэньне" ў Празе (заснавальнік Н.Маковік); Звяз Беларусаў Замежжа (Я.Сідорык); Беларуская культурна-асветная суполка "Скарына".

**Галоўныя праблемы замежнікаў у ЧР і іх прычыны.** Доўгі час праблема нацыянальных меншасцяў не разглядалася чэшскімі ўладамі як актуальная. Толькі ў другой палове 90-х гг. было прызнана, што без замежнікаў чэшскае грамадства, а асабліва эканоміка, не могуць развівацца.

Адна з самых важных праблемаў, якая датычыцца замежнікаў у ЧР, – гэта нізкі ўзровень інтэграцыі, што вядзе да ўзнікнення паралельнага грамадства. На прыкладзе нямецкага грамадства гэта можа прывесці да двайной рызыкі: рост агрэсіі мясцовага насельніцтва да эмігрантаў і рост папулярнасці крайне правых арганізацый і рухаў. Замежнікі, якія жывуць у ЧР, – гэта людзі, якія належаць да розных тыпаў культуры і не імкнуцца да інтэграцыі ў чэшскае грамадства.

Сярод праблем найболш актуальная – гэта недасканаласць чэшскага заканадаўства. Так, напрыклад, Закон аб замежніках на тэрыторыі ЧР пакідае ўсіх замежнікаў у няпэўнасці. Асабліва пры атрыманні дазволу на сталае жыхарства не існуюць умовы, пры выкананні якіх можна чакаць станоўчага вырашэння. Не існуе ніякай прававой нормы, якая б дазволіла вырашаць пытанні дыскрымінацыі замежнікаў. Асабліва праблематычна вырашэнне гэтага пытання для замежнікаў з дазволам на сталае жыхарства. Да таго ж некаторыя крокі адміністрацыі садзейнічаюць дыскрымінацыі, ці з'яўляюцца дыскрымінуючымі. Закон абмяжоўвае замежнікаў у магчымасці набыцця нерухомасці, што вядзе да развіцця карупцыі.

Хаця выбарчае права разглядаецца як адзін з важных момантаў інтэграцыі, замежнікі не могуць ім карыстацца, калі не маюць чэшскага грамадзянства. Тады як у іншых краінах ЕЗ замежнікі доўгі час карыстаюцца актыўным і пасіўным выбарчым правам.

Законам замежнікі не дастаткова матываваны да засваення і актыўнага карыстання чэшскай мовай.

Тое, да якой ступені эміграцыя з'яўляецца праблемай, а да якой меры – жаданым спосабам вырашэння шматлікіх праблемаў, залежыць ад эмігрантаў і ад прымаючай краіны. Таму мэтай ЧР з'яўляецца не толькі ўтрымаць эміграцыю пад кантролем, але і інтэграцыя замежнікаў у сваё грамадства.

*Язэп Паўловіч,*
*кіраўнік рэгіянальнай арганізацыі МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" ў Германіі*

# Замежнік у Германіі – захаванне этнічнай тоеснасці

Існуючая вельмі стракатая карціна эміграцкага асяроддзя ў Германіі складвалася цягам усіх 60 год яе пасляваеннае гісторыі. З апошняе вайны Германія выйшла не толькі пераможанаю, але і з каласальнымі матэрыяльнымі і людскімі стратамі. Да таго ж усё, што можна было вывезці, было вывезена краінамі-пераможцамі: ад тэхналагічных распрацовак і спецыялістаў – да абсталявання заводаў, станкоў і каштоўнае сыравіны. Сутыкненне двух фанатычных таталітарных рэжымаў пакінула па-за сабою прастору татальных разбурэнняў. Нямецкія гарады былі раструшчаны вайсковымі дзеяннямі не ў меншае ступені, чым беларускія.

Часта звычайныя жыхары, былыя грамадзяне Трэцяга Рэйха, не знаходзілі спачування ў народаў-суседзяў, бо была вельмі жывая памяць аб жахах нацыянал-сацыялізму. Цягам месяцаў пасля заканчэння гэтае вайны нават у Даніі, былой саюзніцы Германіі, у лагерах нямецкіх бежанцаў сотнямі гінулі ад голаду нямецкія дзеці. Увосень 1945 г. і наступную зіму не хапала не толькі ежы, але і звычайных дроваў і вугалю.

У гэтых абставінах значнаю дапамогаю было ажыццяўленне амерыканскага "плану Маршала". Пачалася адбудова нармальнага чалавечага жыцця. Не хапала працоўных рук, і першаю этнічнаю групаю, якая масава пачала прыязджаць у Германію былі італьянцы. Менавіта яны кампенсавалі ў пэўнай ступені недахоп мужчын, якія былі забітыя, альбо знаходзіліся ў палоне. Тады ж сфармавалася значная італьянская праслойка ў нямецкім грамадстве.

Неўзабаве да італьянцаў дадаліся туркі, якія спецыялізуюцца да гэтага часу на будаўнічых працах і гандлю. А тады ў Турэччыну былі накіраваныя спецыяльныя вярбоўшчыкі, якія забяспечылі вялікі прыток таннае працоўнае сілы. Так пачалося фармаванне тое часткі сучаснага эміграцкага асяроддзя, якую можна назваць цюрка-арабскім, альбо мусульманскім асяроддзем.

Мусульмане ёсць вельмі важкаю часткаю нямецкага грамадства. Гучаць розныя лічбы. Зараз іх некалькі мільёнаў. У Кёльне, напрыклад, яны складаюць каля 60% насельніцтва. Ёсць вельмі многа турэцкіх грамадскіх і культурніцкіх арганізацый, фірмаў і г.д. У буйных гарадах існуюць цэлыя кварталы, дзе жывуць выключна мусульмане.

Мусульманская прысутнасць ёсць найвялікшаю з эміграцкіх асяродкаў і робіць вялікі ўплыў на ўнутраную і знешнюю палітыку Германіі. З другога боку, пераважная частка мусульманскага насельніцтва супрацьпастаўляе сябе, і часам вельмі актыўна, існуючаму еўрапейскаму ладу жыцця. Праблемы і цяжкасці, якія ўзнікаюць праз гэта, яны пераадольваюць і кампенсуюць развітаю ўзаемадапамогаю і разгалінаванасцю сваіх структураў.

Недзе з канца 70-х – першай паловы 80-х гадоў бярэ свой пачатак масавая эміграцыя ў Германію грамадзян з Савецкага Саюза. Адразу гэта былі пераважна яўрэйскія бежанцы. Гэтая праграма разглядаецца як пэўная кампенсацыя і змякчэнне маральных страт Германіі з-за Халакосту. Зараз такіх бежанцаў там некалькі дзесяткаў тысяч. Яны і паклалі пачатак сучаснае рускамоўнае "савецкае" эміграцыі.

**Пасля размеркаванняў беларусы аказваюцца расцярушанымі па ўсёй тэрыторыі Германіі. Захаваць сваю нацыянальную тоеснасць адной асобе ў даволі агрэсіўным і "стрэсагенным" атачэнні вельмі праблематычна.**

Трохі пазней была прынятая праграма вяртання "на гістарычную радзіму" немцаў – позніх перасяленцаў. З прастораў ужо былога Савецкага Саюза хлынуў паток новых рускамоўных жыхароў, продкі якіх калісьці былі немцамі. Адрозненне іх статусу – гэта атрыманне адразу не толькі права на працу, але і грамадзянства. Для астатніх катэгорыяў эмігрантаў на шляху да гэтага ёсць амаль непераадольныя перашкоды.

За два няпоўныя дзесяцігоддзі рускамоўная "праслойка" нямецкага грамадства значна пашырылася. Амаль у кожным больш-менш вялікім горадзе абавязкова ёсць некалькі рускіх крамаў. Можна сказаць, што ў Германіі ёсць сетка рускае эканамічнае прысутнасці, якая цесна звязаная з Расіяй і падтрымліваецца ёю. Выдаецца адносна шмат рускамоўных газет, ёсць часопісы. Паўсюль ёсць грамадскія арганізацыі, культурніцкія суполкі і цэнтры. Значная роля ў жыцці "руска-нямецкага асяродку" належыць сістэме так званых "зямляцтваў", дзейнасць якіх часта носіць крайне правы характар і якія ўзаемадзейнічаюць з рускамоўнымі правымі газетамі, напрыклад, з газетаю "Ост-вест панарама", што выходзіць у Боне. Рускамоўная сучасная эміграцыя ёсць цалкам хворая на "вялікарусізм".

Вялікаю праблемаю для Аб'яднанае Еўропы і Германіі ёсць арганізаваная злачыннасць. Па дадзеных "Інтэленджэнрэвю" непадпарадкаванаю "рускай мафіі" зараз ёсць толькі тэрыторыя Польшчы, дзе іх "польскія калегі" паспяхова адбілі ўсе спробы ўсталяваць кантроль. На тэрыторыі самой Германіі ідзе пастаянная барацьба за сферы ўплыву. Напрыклад, з паўгады таму адбыліся сутычкі паміж туркамі і рускімі ў раёне Харвайлер у Кёльне.

Што да беларусаў, то трапіўшы ў Германію, яны аўтаматычна робяцца прыналежнымі менавіта да "рускіх". Давесці супрацьлеглае бывае вельмі цяжка, бо "руская большасць" у эміграцыі аказвае вельмі вялікі ўплыў на грамадскую думку нямецкага асяроддзя. Вельмі часта нямецкі суразмоўца цярпліва выслухоўвае вашыя аргументы, але не бярэ іх пад ўвагу і ігнаруе ў далейшым.

Пасля размеркаванняў з лагераў для бежанцаў беларусы аказваюцца расцярушанымі па ўсёй тэрыторыі Германіі і знікаюць у малых мястэчках, як цукар у вадзе. З гэтага пункту гледжання захаваць сваю нацыянальную тоеснасць адной асобе ў даволі агрэсіўным і "стрэсагенным" атачэнні вельмі праблематычна. Чалавек застаецца сам насам з зусім невядомым для сябе светам.

Найбольш надзейным шляхам не толькі захавання нацыянальнае ідэнтычнасці, але і поспеху ў нямецкім грамадстве ёсць самастойная інтэграцыя ў нямецкамоўнае асяроддзе, бо дае магчымасць выкарыстоўваць не толькі асабістыя кантакты, але і вольна арыентавацца ў нямецкай прававой прасторы.

Нямецкае ж заканадаўства дае вельмі шырокія магчымасці для культурніцкае дзейнасці. Захаванне культурніцкае разнастайнасці грамадства і паміжэтнічнага міру – асноўная мэта і ўладаў, і грамадзянскай супольнасці. Напрыклад, у Берліне існуе радыёстанцыя "Мульці-кульці". Яна працуе на мовах усіх значных этнічных групаў у Германіі. Паўсюдна ёсць органы грамадскага самакіравання этнічных меншасцяў. Напрыклад, "Аўслендербайрат" – Сумесныя Саветы Замежнікаў – гэтыя структуры ахопліваюць усю тэрыторыю Германіі.

У выніку Германія дае неабмежаваныя магчымасці для дзейнасці беларускіх суполак і захавання сваёй ідэнтычнасці. На жаль, беларусы не жывуць кампактна і аб'яднаць іх цяжка. З усіх формаў існавання беларускае суполкі найбольш простай ёсць грамадскае аб'яднанне – ферайн. Патрэбныя рэсурсы: 7 чалавек, што жывуць у межах аднае федэральнае зямлі. Арганізацыйныя і рэгістрацыйныя выдаткі складуць ад 3 да 5 тыс. еўра, капмп'ютар для працы ў Інтэрнэце можна набыць за 150-200 еўра, а плата за карыстанне складае 25-35 еўра ў месяц.

Такім чынам, найбольшаю праблемаю для самаідэнтыфікацыі беларусаў у Германіі ёсць іх псіхалагічная скіраванасць і адсутнасць матывацыі для захавання нацыянальнае адметнасці. Становішча можна выправіць толькі тады, калі гэта будзе чалавеку нешта даваць, хаця б з мараль-

нага гледзішча. Гэта ж магчыма толькі тады, калі беларусы, як па асобку, так і іх суполкі, пачнуць узаемадзейнічаць і дапамагаць адно аднаму. У ідэале патрэбна стварэнне сістэмы беларускага бізнесу ў Германіі з касамі ўзаемадапамогі, адвакацкаю і інфармацыйнаю падтрымкаю, выкананнем супольных праектаў і г.д.

Але найлепей, каб такая сістэма ўзаемадачыненняў паміж беларускімі суполкамі існавала па ўсім свеце. Толькі разгалінаваныя і моцныя структуры, якія могуць і ўмеюць зарабляць грошы зробяць беларускую эміграцыю моцнай сілай, з якой будуць лічыцца іншыя.

*Генадзь Праневіч,*
*кіраўнік Брэсцкай філіі ГА "Фонд імя Льва Сапегі"*

# Мова, культура і адметнасць нацыі: праблема самаідэнтыфікацыі беларусаў у сучасным соцыўме

Як вядома, фактар цэнтральнаеўрапейскага месцазнаходжання колішняга Вялікага Княства Літоўскага і Беларусі на скрыжаванні цывілізацый, рэлігій і культурных традыцый самым непасрэдным чынам паўплываў на выпрацоўку полікультурнай мадэлі нацыянальна-духоўнага быцця беларусаў. У эпоху Рэнесансу і Рэфарацыі сінтэтызм і полілінгвізм становяцца адной з найбольш адметных рыс беларускай культуры.

**Толькі 1,5% ад культурных каштоўнасцяў, створаных за вякі беларускім народам, застаецца сёння ў нашым прамым нацыянальным валоданні.**

Здавалася б, наш сённяшні беларускі шлях у Еўропу – гэта абсалютна прамы і зразумелы шлях вяртання да полікультурнай мадэлі, выпрацаванай на нашых землях яшчэ ў эпоху гуманізму. Але не варта забывацца, аднак, на істотную акалічнасць: мадэль полікультурнага нацыянальнага жыцця беларусаў аказалася няздольнай супрацьстаяць націску такіх татальна арганізаваных у рэлігійным і нацыянальна-культурным плане народаў, як палякі і рускія. Трагічны заняпад беларускай культуры перыяду позняга ВКЛ і Рэчы Паспалітай, як і цяжкая барацьба за яе адраджэнне ва ўмовах Расійскай імперыі, засведчылі, што ва ўмовах полікультурнасці культуры карэнных этнасаў павінны быць дастаткова моцныя.

Апошнія палітычныя падзеі ў Еўропе, звязаныя з пашырэннем права-кансерватыўных настрояў сярод выбаршчыкаў Італіі, Аўстрыі, Францыі, засведчылі, прынамсі, што і глабалісцкая культура цяперашняга постіндустрыяльнага грамадства аказалася не ў стане вырашыць праблему нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці, знайсці прымальную формулу ўзаемадачыненняў іншакультурных асяродкаў і нацыянальнай культуры як цэлага.

Па дадзеных прэсы, "імігранты, якія прыбываюць з краін трэцяга свету, не інтэгруюцца ў еўрапейскае грамадства. Узаемапранікнення культур і іх узаемаўзбагачэння не адбываецца. У буйных еўрапейскіх гарадах утвараюцца своеасаблівыя анклавы (астраўкі) курдаў, аўганцаў, пакістанцаў... Чым буйнейшыя анклавы, тым больш згуртаванымі і закрытымі яны становяцца. Закрытымі для мясцовых органаў улады, паліцыі і падатковых службаў..."

Як піша Ё.Тэрнборн, "культурная разнастайнасць, якая запанавала апошнімі часамі ў заходняй частцы кантыненту, азначае, што рэінстытуцыяналізацыя еўрапейскай культурнай гісторыі запатрабавала грунтоўную і агідную культурную чыстку". Шмат хто ўвогуле лічыць, што нацыянальная эпоха ў гісторыі Еўропы беззваротна мінулася, таму, маўляў, непазбежным з'яўляецца "адмаўленне ад ідэі нацыянальнай дзяржавы на карысць глабальнай эканомікі і глабальнага соцыуму".

**Прыродная і "духоўная аселасць" беларусаў на сваёй зямлі, іх незнішчальная "тутэйшасць", апора на здабыткі традыцыйнай культуры – вось што трымае нас у свеце, дапамагае захоўваць нацыянальную адметнасць і самабытнасць.**

Складваецца парадаксальная сітуацыя, калі, з аднаго боку, кожная нацыя імкнецца ўмацаваць і абараніць сваю адметнасць і ўнутраную нацыянальна-культурную тоеснасць, у той час як любая больш-менш развітая іміграцыйная культура разам з глабальнымі культурамі сусветных суперэтнасаў беспакарана разбураюць гэтую самую тоеснасць звонку і знутры.

Калі, напрыклад, прырода і механізм расійскага культурнага экспансіянізму дастаткова добра вядомыя, дык ЗША, як краіна, народ і дзяржава, – гэта далёка яшчэ не завершаны і не бясспрэчны эксперымент, каб Еўропе можна было без асцярогі капіраваць іх мадэрнавы вопыт і рухацца іх шляхам.

Што да беларускай культуры, дык яна выжыла і выстаяла амаль у чатырохсотгадовым змаганні з чужой каланіяльнай уладай. Паводле некаторых дадзеных, толькі 1,5% ад культурных каштоўнасцяў, створаных за вякі беларускім народам, застаецца сёння ў нашым прамым нацыянальным валоданні і распараджэнні. І калі згадзіцца з думкай Р.Інглегарта, што кожная культура ўяўляе сабой стратэгію адаптацыі і выжывання народа, дык гэта азначае найперш, што беларуская культура і мова валодаюць на сёння вельмі сціплымі магчымасцямі для ўласнага самаўзнаўлення і развіцця і маюць безадкладную патрэбу ў спрыянні і падтрымцы з боку дзяржавы.

Нягледзячы на тое, што ў часе апошняга перапісу 1999 г. 81,2% насельнікаў Беларусі прызналі сябе беларусамі, а 85,6 з іх назвалі беларускую мову роднай, у краіне па-ранейшаму адбываецца дыскрымінацыя культуры і мовы карэннага этнасу практычна ва ўсіх сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця.

Толькі праз далучэнне да аўтэнтычнай культуры і мовы свайго народа чалавек адкрывае змястоўнасць і паўнацэннасць свайго ўласнага быцця ў свеце, выпрацоўвае адметную філасофію жыцця, якая арыентуе яго ў часе і прасторы, робіць учынкі і дзеянні асобы асэнсаванымі, прадказальнымі, а сам стыль і спосаб жыцця прагназуема аселым, арыентаваным на прыродны і духоўна-культурны арэал радзімы.

Прыродная і "духоўная аселасць" беларусаў на сваёй зямлі, іх незнішчальная "тутэйшасць", апора на здабыткі традыцыйнай культуры – вось што яшчэ трымае нас у свеце, дапамагае захоўваць сваю нацыянальную адметнасць і самабытнасць. Да пазітыўных фактараў, якія забяспечваюць жыццяздольнасць беларускай культуры, трэба аднесці таксама высокую канцэнтрацыю і шчыльнасць карэннага беларускага этнасу ў межах тэрыторыі сваёй краіны.

Бюлетэнь Інфармацыйнага цэнтра МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі. Падбор матэрыялаў і вёрстка – Зміцер Сасноўскі. Адказная за выпуск – Алена Макоўская.

Адрас рэдакцыі: вул. Рэвалюцыйная, 15, г. Мінск 220030, Рэспубліка Беларусь zbsb@lingvo.minsk.by; www.zbsb.org тэл. (+375 17) 289-31-94

Наклад 200 асобнікаў